Падзеі ва Украіне прымусілі ўсіх суседзяў Расіі задумацца. Мы запыталіся ў розных людзей: **«Што асабіста вы будзеце рабіць, калі Расія захоча захапіць Беларусь»?**

Старонка 2

# Беларусы гатовыя ваяваць за незалежнасць

№ 36 (873) 24 верасня 2014
www.nn.by
НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА
Наша Ніва
ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА
Заснаваная ў лістападзе 1906. Адноўленая ў маі 1991. Выдавец: Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы». Выходзіць штотыднёва, у серады

## Гендырэктара «Барысаўдрэва» прывезлі ў суд з сінякамі пад вачыма

Уладзіміру Мальцаву пагражае да 10 гадоў турмы. Старонка 9.

## Святлана Алексіевіч: Ёсць прадчуванне вялікай вайны. Імперыя ашчэ не сышла

Пісьменніца сустрэлася з мінскімі чытачамі. Старонка 12.

Як, ашчаджаючы на туфлях, адкласці на два катэджы ў Драздах. **Гісторыя поспеху Надзеі Ермаковай**, якая выпадкова патрапіла ў прафесію, але апынулася ў патрэбны час у патрэбным месцы — у пачатку 1990-х у Шклоўскім райвыканкаме.

Старонкі 4–5

# Яна вырасла ў хаце без электрычнасці. А стала кіраўніцай Нацбанка

ПРАДАЙ БАРАДУ
Андруся Такінданга
анімаваныя гісторыі
пра тутэйшы трэш

ВЯСЁЛЫЯ КАРЦІНКІ
таямнічай ДэЛес
штодня

Радыё Свабода
новы сэзон.
новыя перадачы.

ПА-БЕЛАРУСКУ
зь Вінцуком Вячоркам
дасьціпна
пра гісторыю і культуру мовы

ЦУДЫ І ДЗІВОСЫ
БЕЛАРУСІ
Альгерда Бахарэвіча
што адрозьнівае
нас ад іншых

svaboda.org
Сярэднія хвалі 1386 Khz
07:00 - 08:00
22:00 - 23:00

RFE/RL, INC., АРГАНІЗАЦЫЙНАЕ ЗВЯНО. АДРАС: VINOHRADSKA, 1 ПРАГА, ЧЭШСКАЯ РЭСПУБЛІКА, 11000. ІДЭНТЫФІКАЦЫЙНЫ НУМАР: 613 89 269

# Беларусы гатовыя ваяваць за незалежнасць

Падзеі ва Украіне прымусілі ўсіх суседзяў Расіі задумацца. Мы запыталіся ў розных людзей: «**Што асабіста вы будзеце рабіць, калі Расія захоча захапіць Беларусь»?** Вынік апытання нас уразіў, мы такога не чакалі.

**Зміцер Дашкевіч, сустаршыня Маладога фронту:** Якія тут варыянты? Іду на фронт і страляю. Наста [жонка] таксама б адстрэльвалася.

**Міліцыянер Юрый:** Расія ўжо захапіла Беларусь. А вывешванне сцяга ці іншыя адміністратыўныя працэдуры — фармальнасць. Просты народ паступова становіцца «рускімі людзьмі». Як міліцыянер, я тое назіраю. Але я беларускі міліцыянер і станавіцца паліцэйскім не збіраюся.

**Рыгор Астапеня, рэдактар анлайн-часопіса «Ідэя»:** Буду супрацьстаяць! Не ведаю, у вайсковай форме ці ў пінжаку, у вобразе доктара ці выведніка. Усё ж уяўляць сябе героем перад маніторам няцяжка, быць ім на вайне цяжэй.

**Андрэй Дзмітрыеў, лідар «Гавары праўду»:** Шлях адзін: адстойваць суверэнітэт. Але казаць пра канкрэтныя крокі зараз — гэта пустое. Адно ведаю дакладна — не з'еду.

**Аляксей Мікалаевіч, дырэктар цэнтра пазашкольнай творчасці:** Я буду далей працаваць. На канапе ўсе героі. А ваяваць... Я тады буду проста падкрэсліваць сваю прыналежнасць да беларусаў.

**Іван Мікалаевіч, чыноўнік:** Калі рускі сцяг будзе вісець на абладміністрацыі Гомельскай вобласці ці Магілёўскай — буду ваяваць. Калі ж ён будзе вісець на Карла Маркса, 38, то буду вымушаны з'ехаць з краіны.

**Дзмітрый Яненка, журналіст:** Я не веру, што такое здарыцца. Але калі што, я адназначна далучыўся б да той часткі Беларусі, якая будзе змагацца за незалежнасць.

**Анатоль Лябедзька, старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі:** Калі такое здарыцца, я вазьму ў рукі зброю і буду бараніць сваю сям'ю, краіну і будучыню.

**Ганна Шадрына, даследчыца гендару:** Цяжкае пытанне. Але калі такое здарыцца, адразу тэлефануйце мне і я далучуся да змагання, як змагу. Гэта можа быць як валанцёрская дзейнасць ці арганізацыя падтрымкі фронту, гатаванне ежы для людзей, якія будуць змагацца.

**Андрэй Пачобут, журналіст:** Я, канечне, больш аптымістычна настроены, хоць прызнаю, што пагроза такая існуе. Але таксама далучыўся б да тых 14%, якія гатовыя стаяць за Беларусь.

**Алег Гайдукевіч, намеснік старшыні Ліберальна-дэмакратычнай партыі:** Калі такое адбудзецца, то будзем вінаваты толькі мы самі і ніхто іншы. Тое, што Украіна згубіла свае рэгіёны — віна яе мінулай улады, якая займаліся чым заўгодна, толькі не сваёй краінай. Нам жа трэба расціць сваю эліту, развіваць нацыянальны гонар, удасканальваць уладную сістэму, і тады казаць пра нейкі там захоп нам не прыйдзецца. Нам трэба быць моцнымі! Калі ж уявіць адваротнае, то нашая партыя, і я ў тым ліку, будзем рабіць усё ад нас залежнае, каб захаваць цэласнасць і абараніць Беларусь, хто б там ні казаў, што мы прарасійскія.

**Анатоль Байдачны, былы галоўны трэнер зборнай Беларусі па футболе:** Я палітыкай не займаюся. Я за Беларусь як незалежную краіну, але пры гэтым хачу, каб у нас з Расіяй быў шчыльны саюз. Навошта нам ісці ў Еўропу, губляць сваю незалежнасць і жыць падачкамі? Я за сяброўства Беларусі, Расіі і Украіны ў супрацьстаянні з англасаксамі.

**Валярына Кустава, тэлевядучая:** Я пайшла б на вайну. Памалілася б, і пайшла.

Апытвала Вольга Гарапучык

## Лукашэнка загадаў выраблясць перспектыўныя ўзбраенні выключна з беларускіх частак

Аляксандр Лукашэнка ставіць задачу стварэння поўнага замкнёнага цыкла вытворчасці перспектыўных узораў узбраення: ад сродкаў рухомасці да сродкаў паражэння. Пра гэта ён заявіў сёння на нарадзе па пытанні стварэння вытворчасці перспектыўных узораў узбраення.

«Неабходна аснашчаць нашу армію сучаснай, высокадакладнай і эфектыўнай зброяй, — сказаў кіраўнік дзяржавы.— Тэхніка павінна забяспечваць падраздзяленням Узброеных Сіл абароненасць, высокую мабільнасць, кіравальнасць, магчымасць весці разведку і наносіць дакладныя агнявыя ўдары на вялікія адлегласці».

«І падыходы тут, як мы звычайна кажам у прамысловасці, што вось гэта мы купім ці нейкую частку закупім, — ніхто вам нічога не прадасць, калі вы не створыце самі! Нават калі з кімсьці дамовіцеся сёння аб распрацоўцы нейкіх відаў зброі, трэба мець на ўвазе, што заўтра гэты партнёр ад вас сыдзе. Ніхто не дасць і не прадасць нават за вялікія грошы тое, што нам сёння трэба — перспектыўныя віды ўзбраення. Вы бачыце гэта на прыкладзе нашай суседняй Украіны», — адзначыў Аляксандр Лукашэнка.

Паводле яго слоў, наколькі гэта важна ў сучасных умовах, можна бачыць на прыкладзе баявых дзеянняў.

Аляксандр Лукашэнка нагадаў словы даўно вядомай мудрасці: «Хочаш міру — рыхтуйся да вайны». «Нам вайна не пагражае на сённяшні дзень, але войска трэба ўзбройваць своечасова, — лічыць беларускі лідар. — Будзем гатовы адказаць на любы выклік часу, у тым ліку і такі, — значыць, вайны не будзе. На жаль, твар вайны мяняецца. У сувязі з гэтым павінны змяняцца і мы».

БелТА

Пазнаяце?



22 верасня лідар АГП Анатоль Лябедзька і ягоная жонка Святлана адсвяткавалі жамчужнае вяселле — 30 гадоў разам.

## Навукоўцы ажыццявілі квантавую тэлепартацыю на 25 кіламетраў

Фізікі тэлепартавалі квантавы стан фатона на адлегласць 25 кіламетраў. Вынікі сваіх даследаванняў аўтары апублікавалі ў часопісе Nature Photonics, а коратка з імі можна азнаёміца на сайце AlphaGalileo.

У сваім эксперыменце навукоўцы разнеслі два заблытаныя фатоны на адлегласць у 25 кіламетраў па аптычным валакне. Адна з часціц (другая) апынулася пры гэтым у крышталі.

Далей фізікі змянілі квантавы стан першага фатона з дапамогай уздзеяння на яго трэцім. У выніку стан другой часціцы (якая знаходзілася ў крышталі) змяніўся.

Хоць фатоны былі разнесеныя на адлегласць 25 кіламетраў, змяненне стану аднаго з іх адбілася на іншым.

Навукоўцы адзначылі высокую дакладнасць сваіх вымярэнняў. Па іх словах, гэта можа прывесці да прагрэсу ў выкарыстанні заблытаных фатонаў у квантавай крыптаграфіі.

## Сціслa

**Крыкуноў узначаліць зборную**

Трэнер ужо кіраваў беларускай хакейнай камандай на Алімпіядзе-2002, калі зборная сенсацыйна прабілася ў паўфінал, і на чэмпіянаце свету-2003, калі беларусы правальіліся ў другі дывізіён. Пасля гэтага Крыкуноў трэніраваў зборныя Расіі, Казахстана і клубы КХЛ.

**Лондан — самы дарагі горад**

Утрыманне аднаго супрацоўніка ў Лондане абыходзіцца кампаніям у $10 тысяч за месяц. Раней у рэйтынгу самых дарагіх гарадоў наперадзе быў Ганконг. Далей у спісе ідуць Нью-Ёрк і Парыж.

**Міхальчанку выключылі з «чорнага спісу»**

Суд Еўрасаюза адхіліў пазоў намесніка старшыні ЦВК Вадзіма Іпатава, які патрабаваў выключыць яго са спіса неўязных у ЕС. А вось выдучага АНТ Аляксея Міхальчанку са спісаў выкраслілі. У рашэнні суда сказана, што было парушана яго права на абарону, калі змяняліся фармулёўкі прычын унясення яго ў санкцыйны спіс. Грошы на судовы працэс Міхальчанка атрымаў ад... самога Еўрасаюза, папрасіўшы дапамогу праз цяжкі матэрыяльны стан.

**Аўтамабіль разарвала на часткі**

Ад сутыкнення з дрэвам у Гомельскім раёне аўтамабіль разарвала на часткі. П'яны кіроўца не даў рады кіраванню і з'ехаў у кювет. Ён загінуў на месцы здарэння.

**Замест «Мінск-Сіці» — «Мінск-Свет»**

Аляксандр Лукашэнка падпісаў указ аб будаўніцтве шматфункцыяльнальнага комплексу «Мінск-Свет» на месцы аэрапорта «Мінск-1». Плануецца, што праект будзе рэалізаваны да 2027-га. Будаваць будуць сербы.

ЯМ

## Апытанні на nn.by

**Ці трэба павышаць пенсійны ўзрост?**

| | | |
|---|---|---|
| Так | 313 | 39% |
| Не | 435 | 54% |
| Абыякава | 54 | 7% |

Прагаласавала 802 чалавекі

## Самае чытанае на nn.by за 17—23 верасня

1 Дзесяць маладвядомых фактаў пра ўз'яднанне Беларусі ў 1939 годзе
2 Пуцін: Расійскія войскі здольныя за два дні захапіць Вільню, Варшаву і Бухарэст
3 Кучма ў Мінску абсёк журналіста «Лайфньюс»
4 Расследаванне «НН»: загадкавая рэзідэнцыя на беразе Мінскага мора
5 «Пуцін, вон!» — антываенныя сілы Расіі выйшлі на Марш міру ў Маскве
6 «Я ўключыў цябе ў свой арт-праект» — Сяргей Гудзілін піша Міхалку пра ўсё
7 Гандбаліст Раман Лукашук загінуў у бойцы за правы першым паехаць на таксоўцы
8 Форма веласіпедыстак Калумбіі прызнана найгоршай у гісторыі: выглядаюць аголенымі ФОТА
9 Хлопца, які зняў, як парачка займалася сэксам у цэнтры Светлагорска, будуць судзіць
10 Зоркі хакея з партрэтамі Пуціна на грудзях і на БМВ

Падпіску на 4-ы квартал прымаюць да 28 верасня!
Падпішыцеся на родную газету!

**Афармленне падпіскі цяпер даступнае:**
- праз сістэму «Інтэрнэт-падпіска» на сайце **www.belpost.by**;
- праз плацежна-даведкавыя тэрміналы;
- у аддзяленнях паштовай сувязі;
- дома, запрасіўшы паштальёна.

Выпісаць «Нашу Ніву» можна ў кожным паштовым аддзяленні. Падпісацца можна з любога месяца.

Індывідуальная падпіска (індэкс у каталозе — **63125**) — **30 000** руб./месяц

Для прадпрыемстваў (індэкс — **631252**) — **36 000** руб./месяц

**Атрымаць газету магчыма:**
- па ўказаным адрасе (у паштовую скрыню);
- у абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання» (у пунктах паштовай сувязі);
- з рук у рукі (з дастаўкай да кватэры).

Афармляючы падпіску на абаненцкую скрыню або «Да запатрабавання», можна скарыстацца зніжкай за дастаўку газеты.

# Кучма ў Мінску абсек журналіста «Лайфньюс»



Былы прэзідэнт Украіны Леанід Кучма, прадстаўнік Кіева на перамовах па Данбасе, даў адлуп журналісту расійскага канала «Лайфньюс» на прэс-канферэнцыі па выніках падпісання пратакола.

На пытанне «Ну не хочуць ДНР і ЛНР жыць ва Украіне — што рабіць будзеце?» — Кучма адказаў: «Давайце пачуем адказ вашых рэгіёнаў, як хочуць яны жыць і што ім адкажуць. Тады і я вам адкажу на ваша пытанне», — цытуе яго ў сваім Фэйсбуку карэспандэнт Еўрарадыё Зміцер Лукашук.

Сустрэча кантактнай групы ў Мінску скончылася падпісаннем пратакола аб вызначэнні лініі раздзялення бакоў і адводзе цяжкіх узбраенняў.

Пакуль што пагадненне ў цэлым выконваецца.

**Сяргей Гезгала**

# Малады Фронт хоча спыніць імперыю скаргамі

22 верасня Малады Фронт (МФ) абвясціў аб правядзенні сваёй новай кампаніі. Яна атрымала назву «Стоп-імперыя». Як спадзяецца сустаршыня МФ Зміцер Дашкевіч, яна дапаможа ачысціць вуліцы беларускіх гарадоў ад засілля «георгіеўскіх стужачак» і расійскіх сцягоў.

Сваю ўвагу маладафронтаўцы скіруюць на транспарт, у якім да лабавога шкла прычэплены расійскі сцяжок. Паводле правілаў дарожнага руху, на лабавым шкле забаронена размяшчэнне якіх-небудзь прадметаў і атрыбутыкі.

«Усё часцей няясныя людзі раздаюць на вуліцах георгіеўскія стужкі і сцяжкі Расіі. Для чаго? — пытаецца Дашкевіч. — Калі ж некаторыя палітычныя сілы заяўляюць, што Беларусь толькі ўмоўна незалежная дзяржава, а па факце ўваходзіць у пратэктарат гэтак званага «рускага свету», дык тады ў масавай раздачы расейскіх сцяжкоў усё становіцца зразумела: людзі візуальна абазначаюць прастору «рускага свету».

Таму Малады Фронт заклікае нумары такіх машын запісваць і дасылаць звароты ў дзяржаўтаінспекцыю (адрас Мінскай ДАІ: 220036, г.Мінск, пр.Дзяржынскага, 3) з патрабаваннем прыбраць расійскі агітпрап з лабавога шкла таго ці іншага аўтамабіля. Для гэтых нумароў яны стварылі адмысловую старонку ў ФБ (facebook.com/stopruempire).

Лідар МФ прызнае, што ініцыятыва не суперамбітная. «Але давайце хоць нешта рабіць, — заклікае ён. — Вось у дадзеным выпадку мы можам выкарыстаць юрыдычныя нормы — давайце выкарыстаем».

**Улад Швядовіч**

# Ганс-Георг Вік: Рускі нацыяналізм — небяспека для Беларусі

Неабходнае супрацоўніцтва **нават з Лукашэнкам**, лічыць былы шэф нямецкай разведкі.

Былы кіраўнік Кансультацыйна-назіральнай групы АБСЕ ў Мінску, колішні кіраўнік БНД 86-гадовы Ганс-Георг Вік пачынае нашую размову ў ягоным берлінскім доме з канстатацыі: «І беларускі, і расейскі аўтарытарныя рэжымы прыгнятаюць людзей, і трымаюцца яны дзякуючы рэсурсам, расейскі — уласным прыродным рэсурсам, беларускі — дзякуючы расейскім. І гэтым рэжымам наканаваны крах, мы толькі не ведаем дакладнай даты». Але, працягвае ён, для Беларусі «сёння існуе вялікая небяспека, бо ў Расеі пачынаюць выкарыстоўваць нацыяналістычныя тэндэнцыі.

Расія афіцыйна кажа, што абараняе сваіх грамадзян, але гэта толькі падстава. Пуцін кажа пра намер стварыць новую дзяржаву Наваросія на тэрыторыі цяперашняй дзяржавы Украіны... Гэта немагчыма!» Таму, кажа Вік, «стратэгічныя інтарэсы і стратэгічная сітуацыя на сёння прыводзяць [Захад] да таго, што неабходнае супрацоўніцтва нават з Лукашэнкам. У крызісныя часы, на жаль, немагчыма выбіраць партнёраў, але прынамсі можна выбіраць тых людзей, з якімі неабходна весці размову».

Паведамлялася, што Уладзімір Пуцін у размове з Пятром Парашэнкам сказаў, што за 2 дні можа ўзяць Кіеў і яшчэ пяць еўрапейскіх сталіц: Варшаву, Бухарэст... Каму была адрасаваная гэтая пагроза? У СМІ часта выкарыстоўваецца выраз «Трэцяя сусветная вайна». Наколькі гэтая пагроза рэальная.

«Калі Пуцін у размове з Парашэнкам выкарыстоўвае такія словы, то найперш узнікаюць вялікія сумневы ў разумовым стане палітычных сілаў у Расіі», — адказаў Ганс-Георг Вік.

**Паводле: Ганна Соусь, Svaboda.org**

**Цэслер**




**Новы плакат культавага беларускага творцы Уладзіміра Цэслера. Ён назваў яго «Сцяна».**



# «Біў бы па дурных галовах!»

19 верасня ў пасольстве Украіны ў Беларусі адбылася вечарына, прысвечаная 120-годдзю са дня нараджэння Аляксандра Даўжэнкі. У час яе найбольш уразіў эмацыйны выступ **Маргарыты Касімавай (на фота)** — вучаніцы Даўжэнкі і сакурсніцы яшчэ аднаго яго вучня, знакамітага нашага земляка Віктара Турава. «Я часам думаю, — сказала Маргарыта Наймаўна, — калі б жыў цяпер Аляксандр Пятровіч, як бы ён рэагаваў на тое, што адбываецца? І разумею. Ён падняў бы сваю палку, з якой усюды хадзіў, і біў бы, біў бы да дурных галовах, што пачынаюць новую вайну!»

Зала сустрэла гэтыя словы авацыяй.

**НБ**

## Сцісла

**Украіна адмовілася ад удзелу ў «Еўрабачанні-2015»**

Рашэнне тлумачыцца складанай сітуацыяй у краіне. У Кіева на такія забавы банальна няма сродкаў. «Еўрабачанне-2015» адбудзецца ў сталіцы Аўстрыі Вене ў маі.

**СМ**

**Каментар**

# Данбас як Прыднястроўе, а Украіна як што?

Піша **Андрэй Дынько**.

Падпісаныя 20 верасня ў Мінску дакументы замацоўваюць спыненне агню ў Данбасе. Статус-кво Данбаса падобны да статуса Прыднястроўя пасля 1992 года. Такім чынам, Пуцін дасягнуў сваёй задачы-мінімум — стварэння марыянеткавай квазі-дзяржавы на ўсходзе Украіны, але не дасягнуў задачы-максімум — адрыву ад Украіны яе паўднёвай паловы, якую ў Маскве назвалі «Наваросіяй».

Што зрабіла Расія ў Прыднястроўі? Яна на базе расійскай 40-й арміі стварыла і ўзброіла групоўку, нашмат мацнейшую за сілавыя структуры Малдовы, і фінансуе рэжым. У Малдовы і роднаснай з ёй Румыніі няма ні сілавых, ні эканамічных магчымасцяў аднавіць тэрытарыяльную цэласнасць краіны.

Але што адбылося паралельна?

*З Прыднястроўем* суадносіны «прарасійскіх» і «праеўрапейскіх, незалежніцкіх» сілаў у Малдове ў 1990-х і 2000-х былі б больш-менш як у Беларусі. Але *без Прыднястроўя* ў рэшце Малдовы праеўрапейскія настроі дамінуюць. У выніку рэшта Малдовы ўзяла курс на еўраінтэграцыю, хоць і без надзеі на поўную інтэграцыю ў ЕС і НАТА, пакуль на ўсходзе краіны ёсць замарожаны канфлікт.

Без Трансністры (румынская назва тэрыторыі за «Ністру», Днястром) і пад ударамі расійскіх санкцый эканоміка Малдовы перажыла цяжкі спад (прамысловасць краіны была сканцэнтраваная акурат у Прыднястроўі).

Тым не менш, апошнія гады, калі да ўлады ў Малдове прыйшоў некамуністычны ўрад, эканоміка паказвае рост. Пазітыўная тэндэнцыя вымалявалася. Нешта падобнае можа чакаць і Украіну без Данбаса.

З Крымам і Данбасам Украіна трапляла ў палітычны клінч. 50 на 50 за і супраць Януковіча, крохкі баланс. Без Крыма і Данбаса ёсць шанец на хуткія рэформы.

Але што дадуць рэформы, калі газ каштуе 385 даляраў, а ў суседніх Беларусі і Расіі — 170? (І нафта аналагічна.) Пры такіх уводных украінская прадукцыя ўсё адно будзе саступаць у канкурэнтаздольнасці, заробкі вымушана будуць ніжэйшымі, а народ — незадаволеным.

Тым не менш, Украіна — вялізная краіна, з агромністым унутраным рынкам, атамнымі электрастанцыямі, багатая на сыравіну. А чарназёмы якія!

Аднак не выключаны і найгоршы варыянт. Расія без сумневу «створыць» у Данбасе армію, у разы больш магутную за ўкраінскую. Знайсці зачэпку лёгка, і «апалчэнцаў» адправяць на штурм Адэсы і аблогу Кіева.

Безумоўна, Масква будзе імкнуцца да таго, каб за Крымам і Данбасам новыя ўкраінскія рэгіёны, нібы фішкі даміно, пакаліся пад Расію. У Крым і Данбас цяпер цякуць агромныя расійскія грошы. Там будуць ляпіць эканамічны цуд. 400-мільярдныя золатавалютныя рэзервы Расіі тое дазваляюць.

Але зноў жа ёсць адно але. Вугаль Данбаса запатрабаваны толькі ва Украіне. Расіі ён не трэба, свае шахты зачыняюцца. А Кіеву ён патрэбны як паветра. Каб зменшыць залежнасць ад газу. І гэта заўжды будзе схіляць цвярозыя галовы ў Данецку да міру.

Прыклад Кіпра паказвае, што наяўнасць нявырашанага канфлікту не перашкода і для эканамічнага росквіту, і для поўнай еўраінтэграцыі, калі дзяржава адбылася, хоць і з адарванай часткай. І канечне, поспех ці няпоспех Украіны будзе вялікім прыкладам для Беларусі.

# Яна вырасла ў хаце без электрычнасці.

Як ашчаджаючы на туфлях, адкласці на два катэджы ў Драздах. **Гісторыя поспеху Надзеі Ермаковай.**

«Калі прыйшоў час выбіраць, куды пайсці вучыцца, я проста тыкнула пальцам у газету, дзе была рэклама навучальных устаноў для паступлення. Выбар трапіў на Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум. Туды і паступіла. Гэта сапраўды быў выбар наўздагад — мы ў вёсцы толкам і не ведалі, што такое банк», — шчыра прызнаецца цяперашняя галоўная банкірка краіны Надзея Ермакова.

Зрэшты, яе папярэднік Пятро Пракаповіч таксама апынуўся ў Нацбанку выпадкова — перад уступленнем на пасаду ён паўжыцця адпрацаваў у будаўніцтве.

Якія б заявы ні рабіла Ермакова, у памяці беларусаў яна застанецца сваім пасажам пра туфлі. «Ну вось у мяне даляраў няма — і я не іду ў абменнік. Мне ён проста не патрэбны. У мяне ў 90-я не было і сёння няма. Так, абутак завозіцца імпартны, так, ён стане крыху даражэйшым, але нічога страшнага, зносім замест двух туфляў адны», — заявіла банкірка ў сярэдзіне 2011-га.

Невядома, ці дапамог ёй гэты гімн ашчаднасці, але неўзабаве пасля заявы Ермакову паставілі кіраваць Нацбанкам. А яшчэ праз пару месяцаў ёй удалося зрабіць тое, што не змог ніводзін іншы чыноўнік, апроч Пракаповіча, — атрымаць другі ўчастак зямлі каля Драздоў. Што эквівалентна статусу даляравай мільянеркі.

Прапануем гісторыю ўзлёту адной з прадстаўніц «шклоўскіх» чыноўнікаў, якія сталі беларускім феноменам сярэдзіны 1990-х.

**Даведка**

Надзея Ермакова нарадзілася 19 красавіка 1953 у вёсцы Разальмоў Хоцімскага раёна. Скончыла Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум (1971), Беларускі дзяржаўны інстытут народнай гаспадаркі імя Куйбышава (1978).

Працавала ў структурах Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржбанка СССР: у 1971—1979 — у Хоцімскім аддзяленні, у 1979—1983 — намесніца кіраўніка Кіраўскага аддзялення, у 1983—1984 — кіраўніца Шклоўскага аддзялення.

У 1984—1994 працавала ў Шклоўскім райвыканкаме, спачатку намесніцай старшыні, пасля загадчыцай фінансавым аддзелам. У 1994 — кіраўніца шклоўскага філіяла банка «Поўнач-Захад». У 1994—1995 — кіраўніца шклоўскага аддзялення «Белаграпрамбанка».

У 1996—2011 — намесніца старшыні праўлення, старшыня праўлення «Беларусбанка». З 2011 — старшыня праўлення Нацбанка.

З 1999 — старшыня ГА «Беларускі саюз жанчын».

Двойчы разведзеная, мае дваіх дзяцей.

### З краю Беларусі

Надзея Ермакова (а тады проста Надзя Лупекіна) нарадзілася ў 1953 годзе ў вёсцы Разальмоў Хоцімскага раёна. Гэта самы край Беларусі. Далей толькі расійскія абшары. Але ніякага памежнага гандлю няма. У расійскіх ваколіцах няма больш-менш вялікіх населеных пунктаў. Зрэшты, як і дарог таксама.

Што такое Хоцімскі раён цяпер? Адзін з самых маленькіх рэгіёнаў краіны і па плошчы, і па насельніцтве. За часы прэзідэнцтва Аляксандра Лукашэнкі раён «усох» з 18 тысяч чалавек да 11,5 тысячы.

Хоцімшчына балансуе на мяжы дзесяці найбяднейшых раёнаў краіны. Афіцыйны сярэдні заробак чыстымі не дацягвае нават да 3,9 мільёна рублёў. Дый і працаваць няма дзе: на ўвесь раён толькі адно прамысловае прадпрыемства — ільнозавод. Наедку з яго ніякага, за мінулы год чыстыя страты дасягнулі $265 тысяч.

Навошта гэтая даведка? Каб зразумець, што перспектыў перад хоцімскімі дзецьмі ніхто не маляваў ні тады, ні цяпер. Паказальны прыклад — у час дзяцінства Ермаковай у Разальмове нават не было электрычнасці. І гэта не на закінутым хутары, а ў вёсцы на некалькі сотняў чалавек, цэнтры сельсавета! Будучай банкірцы даводзілася рабіць урокі пры лучыне.

### Прыбытак ад шытва

Сям'я Лупекіных была простай. Бацька, Андрэй Іосіфавіч, працаваў электразваршчыкам. Ён адным з нямногіх у вёсцы стаў членам КПСС.

А вось маці, Людміла Аляксееўна, была рознарабочай у калгасе. Да сярэдзіны 1960-х у калгасах захоўвалася сістэма працадзён, таму сям'і даводзілася трымаць сваю гаспадарку. Але асноўны прыбытак ішоў ад шытва на замову. Банкірка хвалілася, што яе мама абшывала ўсю вёску. А пасля навучыла і дачок. Апроч Надзі, у Лупекіных была яшчэ малодшая Люба.

У пачатковую школу будучая банкірка хадзіла ў самім Разальмове, а вось скончала ясналянскую васьмігодку ў суседняй вёсцы. Прычым вучылася на выдатна. Тут жа праявілася яе актыўнасць — Лупекіна была сакратаром першаснай камсамольскай арганізацыі.



BYMEDIA.NET



BYMEDIA.NET

**Першыя гады жыцця ў Мінску. Ермакова ў 1999-м.**

### Вяртанне ў Хоцімск

Пасля заканчэння школы 15-гадовая дзяўчына вырвалася з Хоцімскага раёна і паступіла ў Пінскі ўлікова-крэдытны тэхнікум. Гэта той самы выпадковы выбар прафесіі, які ў будучыні дазволіў ёй выцягнуць шчаслівую карту. У адрозненне ад школы, дзе Лупекіна была выдатніцай, тут узровень яе ведаў быў далёкім ад лідараў.

У 1971-м дзяўчыне давялося вяртуцца ў Хоцімск. Лупекіна пачала ўздым па кар'ернай лесвіцы ў мясцовым аддзяленні Беларускай рэспубліканскай канторы Дзяржбанка СССР. За восем гадоў удалося дарасці з пасады крэдытнага інспектара да пасады намесніцы кіраўніка. А заадно і атрымаць вышэйшую адукацыю. Банкірка завочна скончыла Наргас.

Аднак калі на працы ў Надзеі ўсё было паспяхова, то ў сямейным жыцці яе перасследавалі няўдачы.

### Трагічнае каханне

20-гадовая Надзея падпрацоўвала на хоцімскай танцпляцоўцы, дзе і пазнаёмілася з Аркадзем Ермаковым. Прыгожы быў хлопец, але піў.

Гэта не ўнікальная з'ява, тым больш для хоцімскіх краёў. Нават сама Ермакова на пытанне пра стаўленне да алкаголю адказвала: «Магу і белае, і чырвонае, і гарэлку. Але рэдка і ў меру».

А вось Аркадзь піў не рэдка і не ў меру. Дзяўчына спадзявалася змяніць яго, ды ўсё марна. Не прызнавалі жаніха і яе бацькі. Але насуперак усяму маладыя пабраліся шлюбам. Вяселля не было. «Сышліся — і сышліся», — узгадвае сваячка Ермаковай Валянціна Лупекіна, якая дагэтуль жыве ў Розальмаве.

«У дзяцінстве мама заўсёды спявала. Калі я выйшла замуж, яна спяваць перастала. Назаўсёды. Была катэгарычна супраць майго шлюбу. І жыццё паказала, што яна мела рацыю», — прызнавалася Ермакова.

У 1975-м у маладой сям'і нарадзілася дачка Наталля. «Вельмі хутка наша жыццё ператварылася ў пекла. Пекла — не лепшае месца для дзіцяці, і нельга дазваляць сябе прыніжаць», — расказвала Ермакова. Нацярпеўшыся жахаў, яна адважылася ўцячы разам з маленькай дачкой.

У 1979-м Ермакова дамовілася аб пераводзе з Хоцімска ў Кіраўск на аналагічную пасаду — намесніка кіраўніка мясцовага аддзялення Дзяржбанка. Гэта больш за 250 км ад дома і ад бацькоў, але затое і ад былога мужа.

У Кіраўску Ермакова правяла чатыры гады, пасля чаго пайшла на павышэнне. У шклоўскім аддзяленні Дзяржбанка яна стала кіраўніцай.

### Шклоўскі этап

У Шклове Ермакова затрымалася на 12 гадоў, прычым большасць часу працавала не банкіркай, а чыноўніцай.

Новы этап жыцця даў ёй лёсавызначальнае знаёмства — з дырэктарам саўгаса «Гарадзец» Аляксандрам Лукашэнкам. Стаўшы



**Новы катэдж будуецца ў водаахоўнай зоне Драздоў.**

# А стала кіраўніцай Нацбанка

кіраўніком краіны, ён не забыўся пра шклоўскую фінансістку і ўзнёс яе да нечуваных вышыняў.

А сама Ермакова перацягнула ў Шклоў сям'ю. Цікава, што бацькі Надзеі перапязджалі ўслед за ёй і з Разальмова ў Хоцімск. Андрэй Іосіфавіч быў добрым цесляром, таму сам паставіў хату ў райцэнтры.

Пайшла на працу ў банк слядамі старэйшай і малодшая сястра. Па словах сваякоў у Разальмаве, Любоў дагэтуль жыве ў Шклове.

### Другая спроба

Шклоў прынёс Ермаковай і другое вялікае каханне. Тут яна пазнаёмілася з былым міліцыянтам Андрэем, які з цягам часу стаў яе мужам. У шлюбе нарадзілася дачка Юлія. Аднак і гэтая гісторыя кахання таксама аказалася сумнай.

Як міліцыянт, Андрэй рана выйшаў на пенсію. Пераехаўшы ў Мінск разам з жонкай, ён пачаў моцна піць. «Не знайшоў сябе ў сталіцы», — тлумачыла Ермакова.

Змаганне з алкагалізмам зноў аказалася марным, як і ў сітуацыі з першым мужам. Надзея дамовілася, што мужа забярэ назад ягоная першая жонка. Праз некалькі гадоў Андрэй памёр.

Гісторыя з двума разводамі фактычна капіюе жыццёвую сітуацыю іншай вядомай жанчыны ў беларускай уладзе. Старшыня ЦВК Лідзія Ярмошына таксама была ініцыяткай расстання са сваімі мужамі.

### Прызначэнне ў Мінск

Кар'ерны ўзлёт быў нечаканым для самой Ермаковай. Аляксандр Лукашэнка паклікаў банкірку ў сталіцу працаваць у кіраўніцтве «Беларусбанка». Тая спачатку адмаўлялася, казала, што не зможа... Але паехала.

Паўтара месяца Ермакова працавала намесніцай у Тамары Віннікавай. Гэта быў такі «свой чалавек на важным месцы». А калі Віннікаву Лукашэнка прызначыў кіраўніцай Нацбанка, а пасля пасадзіў, «Беларусбанк» на доўгія гады ўзначаліла Ермакова.

Як ацаніць 15 гадоў, якія яна правяла на чале найбуйнейшага банка краіны? Эксперты не бачаць заўважных правалаў ці адметных дасягненняў дзейнасці Ермаковай на пасадзе кіраўніцы «Беларусбанка». У гады росту эканомікі Беларусі банк развіваўся, у гады крызісаў — збаўляў абароты... Ермакова рухалася ў такт з лукашэнкаўскай мадэлі.


Свой дом Ермакова перапісала на дачку.


Альтанку паставілі на месцы колішняй хаты Лупекіных.

### Кланавы падыход

Яшчэ падчас навучання ў пінскім тэхнікуме найлепшай сяброўкай Ермаковай стала яе аднагодка Валянціна Назаранка. Ермакова называла яе ў інтэрв'ю «другой мамай маіх дзяцей».

Калі ж маладая спецыялістка прыехала працаваць у Хоцімск, яе старэйшай калегай, а пасля і сяброўкай стала яшчэ адна Валянціна — Лук'яненка.

Атрымаўшы высокую пасаду ў «Беларусбанку», Ермакова прывяла абедзвюх сябровак у склад праўлення найбуйнейшага банка краіны. Назаранка стала намесніцай старшыні, а Лук'яненка — першай намесніцай.

### Двойчы жыхарка Драздоў

У сярэдзіне 2000-х некалькі дзясяткаў уплывовых чыноўнікаў атрымалі прапанову пабудаваць катэджы каля прэзідэнцкай рэзідэнцыі ў Драздах. Сярод іх аказалася і Надзея Ермакова.

Для банкіркі выдзелілі 15 сотак у канцы Ізумруднага завулка, побач з тагачасным старшынёй Канстытуцыйнага суда Рыгорам Васілевічам. Катэдж Ермакова збудавала сціплы, як для чалавека свайго ўзроўню, — плошчай каля 250 м². Для параўнання, дом іншага суседа Ермаковай, Валерыя Мазоўкі (ён узначальваў трэст, які забудоўваў Драздзы), удвая большы.

Праз некалькі гадоў пасля засялення Надзея Ермакова вырашыла перапісаць свой катэдж на старэйшую дачку. На падставе шлюбнай дамовы Наталля Чэпікава стала паўнавартаснай гаспадыняй дома. Цікава, што імя, імя па бацьку і прозвішча яе мужа цалкам супадае з дадзенымі дырэктара па маркетынгу Мінскага трактарнага завода (нам не ўдалося праверыць, ці ён гэта, турбавацьяго з такім пытаннем мы не рашыліся).

Абедзве дачкі Ермаковай атрымалі эканамічную адукацыю, але не працуюць па спецыяльнасці. І ў Наталлі, і ў Юліі па двое дзяцей.



Малая Надзея разам з маці

**Землякі Ермаковай не ганарацца**

Роднай хаты банкіркі ў Разальмове не засталося. На яе месцы мясцовыя ўлады вырашылі паставіць сімвалічную альтанку. Каля яе тройчы на тыдзень збіраюцца мясцовыя жыхары ў чаканні аўталаўкі.

У Разальмове пра ўплывовую зямлячку ведаюць усе. Папярэднім славутым ураджэнцам Хоцімскага краю можна лічыць Васіля Вашчылу, які ўзначаліў сялянскае паўстанне ў сярэдзіне XVIII стагоддзя.

Але ці ганарацца Ермаковай? «Пра Надзьку пішаце? А што пра яе пісаць, што яна добрага зрабіла? — хорам абураюцца разальмоўцы каля аўталаўкі. — Вы б пра якую даярку лепш напісалі! А Надзьцы толькі грошы нясеш — і нічога ўзамен!»

Такога стаўлення да земляхоў, якія сталі высокімі чыноўнікамі, чуць яшчэ не даводзілася…

Крыўду можна зразумець. Узровень жыцця ў вёсцы надзвычай нізкі. Міф пра якасныя беларускія дарогі на Хоцімшчыне разбураецца. Ад Разальмова да райцэнтра менш за 20 км, але праехаць напрамую немагчыма. Смельчакоў, якія спрабуюць прарвацца па засыпанай пяском дарозе, даводзіцца выцягваць грузавой тэхнікай. Выбірацца трэба ў аб'езд, але гэта ўдвая даўжэй. Дый усё адно дарога такая, што можна страціць падвеску. Аўтобус да райцэнтра ідзе ў аб'езд, намотваючы лішнія кіламетры, таму за праезд даводзіцца плаціць больш за 50 тысяч рублёў! Для вясковых пенсіянераў, вымушаных ездзіць у Хоцімск да доктара, гэта вялікая сума.

Тады ж, у канцы 2010-га, Ермакова набыла сабе двухпакаёвую кватэру на вуліцы Ляўкова ў Мінску.

Але галоўнае, што, паводле папераў, яна не валодала элітнай зямлёй. Таму падчас раздачы чыноўнікам надзелаў для будаўніцтва ў сталічным раёне Вяснянка («Дразды-2») кіраўніца Нацбанка атрымала чарговыя 15 сотак.

Ермаковай дасталася самае прэстыжнае месца — на першай берагавой лініі вадасховішча Дразды, побач з мінскім мэрам Мікалаем Ладуцькам. Але калі той нават не пачынаў будаўніцтва, то Ермакова зможа засяліцца ў новы катэдж ужо хутка.

Цікава, што на яе ўчастку цяпер працуюць спрэс азіяты, якія не разумеюць ні па-беларуску, ні па-руску.

### Галоўная жанчына Беларусі

Вось ужо 15 гадоў Надзея Ермакова ўзначальвае Беларускі саюз жанчын. Адной з мэтаў гэтай арганізацыі, якая налічвае каля 200 тысяч сяброў, дэкларуецца «павышэнне ролі жанчын у грамадскім, эканамічным, сацыяльным і культурным жыцці». Аднак не трэба цешыць ілюзіямі. Феномен беларускіх жанчын-кіраўніц у тым, што, забраўшыся высока па кар'ернай лесвіцы, яны мараць гэтую самую лесвіцу схаваць ад іншых жанчын. І Ермакова не выключэнне.

«Жанчыне трэба выбіраць сям'ю. Для яе гэта галоўнае, — перакананая Надзея Ермакова. — А кар'ера — рэч другасная». «Быць замужам — гэта значыць існаваць за сваім мужам, змірыцца з цяжкасцямі і нягодамі, якія ўзнікаюць на гэтым шляху. Калі мужа прызначылі на нейкую пасаду, адправілі ў іншы горад, ён працуе суткамі — трэба паехаць за ім, узяць на сябе ўвесь хатні клопат», — раіць старшыня саюза жанчын.

Сярод удалых праектаў апошняга часу, да якіх спрычыніўся Беларускі саюз жанчын і асабіста Надзея Ермакова, — стварэнне сайта Дадому.by з адзінай базай дзяцей, якія чакаюць усынаўлення. Гэта дасць камусьці адзіны жыццёвы шанец.

Аднак часу на грамадскую арганізацыю ў старшыні Нацбанка няшмат. У леташнім плане працы саюза жанчын (сёлетні яшчэ не апублікаваны) Ермакова не ўзгадвалася ні разу. Для параўнання, сустаршыня арганізацыі, былы міністр працы Антаніна Марава, адказвала за правядзенне 15 мерапрыемстваў.

### На чале Нацбанка

Кіруючы «Беларусбанкам», Ермакова старанна выконвала задачы, якія ставіў перад ёй кіраўнік дзяржавы. Куды не трэба, не лезла, вагалася разам з генеральнай лініяй. І ў сярэдзіне 2011-га банкірка атрымала прызначэнне ў Нацбанк на месца захварэлага Пятра Пракаповіча. Пачатак дэвальвацыі адбыўся яшчэ пры ягоным кіраванні. А вось давяла курс даляра да 8500 рублёў тады менавіта Ермакова. За наступныя пару гадоў рубель абясцэніўся яшчэ на чвэрць.

У большасці краін свету персанальная адказнасць за няспынную дэвальвацыю ляжала б на старшыні Нацбанка. Але ў Беларусі іншая спецыфіка. Самастойнасці ў выбары фінансавай палітыкі ў Надзеі Ермаковай няма. Задача Нацбанка фактычна зводзіцца да выканання плана, задуманага адміністрацыяй Аляксандра Лукашэнкі.

Аднак дзякуючы прафесійнай камандзе нават пры такой сітуацыі Нацбанк выглядае прывабна.

А што ж сама Ермакова і яе разуменне эканамічнай сітуацыі? «Вы ж фінансіст, чаму самі не зрабілі ўклад у валюце?» — спыталі ў яе ў 2011-м, калі рубель абваліўся ў тры разы. «Не ведаю, я неяк нармальна ставілася да рублёвых укладаў. Я — як увесь народ. Чым я лепшая за астатніх?» — прызналася старшыня Нацбанка.

**Адар'я Гуштын, Ягор Марціновіч**

# Кіно і унтэры прышыбеевы

Мінскія студэнты зладзілі прагляд кінафільма **ў пераходзе**. На іх напусцілі АМАП і пасадзілі на суткі.

Шмат хто кажа: Мінску бракуе душы. І ад беларусаў, і ад замежных гасцей, якім ёсць з чым параўноўваць, даводзілася чуць: горад прасторны, вуліцы шырокія, затораў мала, падмецена, а вось каб душэўнага чаго, небанальнага...

Напэўна, неардынарнасці прагнулі і тыя некалькі студэнтаў, якія прыдумалі ладзіць у Мінску «кінапрагляды ў пераходах». Літаральна. У прызначаны час усіх ахвотных заклікалі прыходзіць у адзін з падземных пераходаў са сваімі коўдрамі, зэдлікамі і тэрмасамі з чаем. Арганізатары прыносілі ноўтбук і праектар, вешалі на сцяну перахода прасціну ці проста наклейвалі белыя аркушы паперы, і ўсе разам праглядалі кінастужку, звычайна на вострыя сацыяльныя тэмы. Гук транслявалі праз FM-перадатчык. Не кралі, не пілі, не плявалі. Проста кіно глядзелі.

### Пяць сеансаў

Паспела адбыцца 5 кінапаказаў. Падчас першых трох ніхто не звяртаў увагу на моладзь, якая сядзела ўздоўж сценаў падземных пераходаў. Нават міліцыянты праходзілі міма. «Кіно ў пераходах» набірала папулярнасць, анонсы мерапрыемства з'явіліся ў СМІ.

Магчыма, нейкі унтэр прышыбееў вырашыў, што грамадская самаарганізацыя зайшла задалёка, і 25 чалавек, якія прыйшлі 12 верасня паглядзець амерыканскі фільм «Пісьменнікі свабоды» пад мостам у парку Горкага, затрымалі. Тады, аднак, усіх адпусцілі без пратаколаў. У суполцы руху ў Фэйсбуку пільнасць міліцыі патлумачылі падрыхтоўкай да Дня горада.

Аднак наступны кінапрагляд (цяпер у пераходзе каля журфака БДУ) таксама сарваўся. 18 верасня 30 гледачоў затрымалі і адвезлі ў РУУС Маскоўскага раёна. Гледачоў адпусцілі праз некалькі гадзін. Але «рухавікоў» праекта — Настассю Доль і Змітра Латушкіна — асудзілі на 6 і 5 сутак арышту адпаведна.


Настасся Доль.


Зміцер Латушкін.

### Актыўная Долюшка

Ідэя глядзець кіно ў пераходзе належыць мінчуку Міхаілу Волкаву. Але арганізатаркай стала яго-ная сяброўка Настасся Доль. Сам Волкаў адказваў за тэхнічную частку працэсу.

23-гадовая Настасся Доль, якая ў сацыяльных сетках падпісваецца як Долюшка, увогуле не любіць сядзець на месцы. Яна нарадзілася ў Полацку, вывучылася ў Мінску на юрыста ў Беларускім інстытуце правазнаўства. Дыплом там абараняла па-беларуску.

Грамадскім актывізмам яна зацікавілася яшчэ ў інстытуце, дзе ўдзельнічала ў міжнародным праекце Street Law («Правa на кожны дзень») — ездзіла па школах і расказвала вучням пра крымінальнае, адміністратыўнае і сямейнае правa. На другім курсе Настасся ўступіла ў нефармальнае Задзіночанне беларускіх студэнтаў і дарасла ў ім да старшыні.

Летась ад Беларусі ездзіла на Сусветны моладзевы марш міру ў Сеул.

Другі арганізатар, 30-гадовы Зміцер Латушкін, родам з Магілёва. Да «кінапраглядаў у пераходзе» ён далучыўся пасля некалькіх кінасеансаў. Жыве ён пераважна ў Маскве, валодае там студыяй дызайну інтэр'ераў. Пасля арышту ён напісаў паведамленне ў сваім Твітары: «Я на сутках. Убачымся ў аўторак. Не сумуйце ;)».

### «Узялі на аловак»

У той чацвер у пераходзе з двух бакоў з'явіліся людзі ў штацкім і загадалі ўсім збіраць рэчы і выходзіць з перахода. На вуліцы іх ужо чакаў аўтобус, які адвёз усіх у РУУС. Доль і Латушкіну сказалі застацца ў аўтобусе, а астатніх павялі ў будынак, дзе перапісалі асабістыя дадзеныя і адпусцілі. Супрацоўнік, што перапісваў пашпарты, кажуць прысутныя, быў раздражнёны тым, што праз маладых людзей ён мусіць затрымацца на працы і дазваляў сабе нецэнзурныя выказванні на іх адрас.

А на наступны дзень адбыліся суды. Доль і Латушкіна абвінавачвалі па традыцыйных «палітычных» артыкулах «Дробнае хуліганства» і «Непадпарадкаванне законнаму патрабаванню службовай асобы». Суддзёй была Таццяна Мотыль, сведкамі выступалі амапаўцы А.Быстрымовіч і І.Якімовіч. Першы казаў, што ішоў па пераходзе і бачыў, як маладыя людзі глядзяць кіно і лаюцца матам, другі спасылаўся на паведамленне аб мітынгу ў падземным пераходзе.

Кажуць, што «кінапрагляды ў пераходзе» плануюць ладзіць і далей. Аднак ці атрымаецца — пытанне. Як сказаў адзін з міліцыянтаў глядачцы Ганне: «Вас узялі на аловак».

**Кірыла Хілько**




**Фотафакт**

**У мястэчку Халопенічы Крупскага раёна Мінскай вобласці на таблічках з назвамі вуліц пазначылі іх колішнія, гістарычныя назвы. Рэвалюцыйная, Ленінская, Першамайская, Карла Маркса раней называліся вуліцамі Замкавая, Узнацкая, Чарэйская, Гара Галькевіцкая... Такія шыльды выхоўваюць павагу да сваёй гісторыі.**

## Беларуска трапіла ў турму ў Непале

Яна **падправіла дату ў дакументах**, каб паспець пакінуць краіну.

25-гадовая беларуска Вольга Каптур другі тыдзень сядзіць у непальскай турме. Дзяўчына — валанцёрка праекта «Школа для Непала», які арганізаваў турыст з Уладзівастока. Як і сотні ахвотнікаў з усяго свету, яна будавала школу, а таксама выкладала англійскую для мясцовых дзетак. Вярнуцца дадому ёй не ўдалося — беларуску затрымалі на мяжы праз праблемы з дакументамі. Да справы адразу падключыліся беларускія дыпламаты, але пакуль дапамагчы не здолелі.

«Умовы тут жудасныя. Кормяць нас за нашы ўласныя грошы. Абдзіраюць», — распавяла Вольга на схаваную камеру.

У Непале дзяўчына была з Паўлам, сваім партнёрам. Але ў яго ніякіх праблем з візавымі службамі не ўзнікла. Вольга ж, кажа яна, не змагла пакінуць Непал да заканчэння візы з-за сезону дажджоў і блакаванай дарогі. Але замест спробы выправіць сітуацыю ў міграцыйных службах паспрабавала сама падправіць даты ў дакументах, што і прыцягнула ўвагу памежнікаў.

**Паводле АНТ**

## Зацверджана новая форма жыроўкі

Насельніцтва рыхтуюць да **адмены субсідый**.

Новая форма жыроўкі зацверджана ў Беларусі. Адпаведнае рашэнне змяшчаецца ў пастанове Міністэрства жыллёва-камунальнай гаспадаркі.

У жыроўках з'явіліся графы «Дата, нумар дамовы на аказанне паслуг, найменне арганізацыі», «Тарыфы (цэны), якія забяспечваюць поўнае пакрыццё эканамічна абгрунтаваных затрат», «Тарыфы (цэны) субсідзіруюцца», «Памер платы за памяшканне», «Налічана па тарыфах (цэнах), што забяспечваюць поўную кампенсацыю эканамічна абгрунтаваных затрат», «Налічана па субсідзіраваных тарыфах (цэнах)».

Такая форма жыроўкі псіхалагічна рыхтуе грамадзян да паступовага зніжэння і адмены субсідый на камунальныя выдаткі.

Урад сцвярджае, што насельніцтва аплачвае толькі 27% рэальнага кошту камунальных паслуг. Крытыкі гэтага меркавання называюць лічбы «эканамічна абгрунтаваных затрат» узятымі са столі і нерэальнымі пры той цане, па якой Беларусь імпартуе газ.

**Сяргей Гезгала**

## 24-гадовы беспрацоўны з Салігорска сабраў Mclaren f1

24-гадовы жыхар Салігорска Даніла Цюфцін літаральна на каленцы сабраў рэпліку Mclaren f1. Цяпер аб'ява вісіць на барахолцы Анлайнера. Хлопец прадае машыну за 39 тысяч даляраў.

На запчасткі на яе пайшло 5 тысяч даляраў.

У якасці донара Даніла выкарыстаў Peugeot 806. А вось кузаў адліваў сам.

«130 коней, аб'ём рухавіка — 2,0, бензінавая, — расказвае Даніла. — Яе яшчэ абшыць трэба і дробныя дапрацоўкі зрабіць». У машыне пакуль няма кандыцыянера, шыбаў і іншых навароташ, але кошт указаны з улікам поўнай зборкі.



На сайце машына прадаецца як Lamborghini Diablo.

Да нядаўняга часу Даніла працаваў у Салігорскім інстытуце праблем рэсурсазберажэння, але цяпер гэтую працу кінуў і часова беспрацоўны. Калі яго тварэнне купяць, то рызыка апраўдаецца.

**Паводле Еўрарадыё**

# «Хто першы памёр — той і лёг!»

У Гомелі дзве сям'і **судзяцца за месца** на могілках.

У суд як інстанцыю пошукаў «законнай справядлівасці» людзі звяртаюцца з рознымі праблемамі. Некаторыя грамадзяне ходзяць у суд як на працу. Адзін чалавек у Гомелі 12 гадоў судзіцца з прадпрыемствам, якое яго звольніла. Праз суд дзеляць сем'і, дзяцей, нерухомасць, грошы і нават месцы на могілках.

Калі нарматыў жылой плошчы для чалавека — 15 квадратных метраў, то на могілках кожны грамадзянін РБ пасля смерці мае права атрымаць участак 1,6 на 2,2 метра ці падвойны ўчастак плошчай 2,2 на 2,3 метра. На падвойным участку можна хаваць сваякоў: унукаў, бабуль, братоў, бацькоў, стрыечных пляменнікаў і так далей. Галоўнае, каб пахаванне адбылося ў згодзе з іншымі блізкімі сваякамі, якія не прэтэндуюць на дадзенае месца. Каб не было праблем, тыя, хто хавае сваіх блізкіх, даюць распіску аб тым, што ў выпадку ўзнікнення непаразуменняў паміж сваякамі з-за таго, хто мае большае права спачываць у дадзенай магіле, усе судовыя выдаткі бярэ на сябе сваяк памерлага.



СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

Цяпер у адным з раённых судоў Гомеля разглядаецца грамадзянская справа па пазове жыхароў абласнога цэнтра да мужчыны, які без іх дазволу пахаваў сваю маці каля іх сваякоў. Па словах заяўнікаў, адказчык не меў такога права, бо не з'яўляецца іх сваяком і не ўзгадняў з імі пытанне пахавання сваёй маці.

## Заяўнік патрабуе эксгумацыі жанчыны, якая памерла больш за год таму

Заяўнік сцвярджае, што ён пахаваў маці менавіта ў гэтым месцы таму, што выконваў яе апошнюю волю — яна пры жыцці прасіла сына пахаваць менавіта тут, каля сваіх знаёмых, магілы якіх прыбірала пры жыцці.

Мірным шляхам бакі не дамовіліся. Таму цяпер справу разглядае суд.

Заяўнік патрабуе эксгумацыі жанчыны, якая памерла больш чым год таму. Калі адказчык прайграе суд, ён будзе вымушаны правесці эксгумацыю за свой кошт і выплаціць судовыя выдаткі.

Часам здараецца і такое, што блізкія людзі праз суд аспрэчваюць права адзін аднаго быць пахаваным каля, напрыклад, бацькоў. Прычым у судзе людзі часам апелююць такімі аргументамі, як «ён маці не любіў, не клапаціўся пра яе, таму я павінна быць пахаваная там, а не мой брат».

Так, паўтара года судзілася ў розных інстанцыях жыхарка Гомеля са сваякамі яе брата-нябожчыка. Калі памёр брат, яго пахавалі каля спачылых бацькоў. Сястра была супраць, бо меркавала, што яна і яе муж павінны там пасля смерці быць пахаваныя. Маўляў, пры жыцці бацькоў існавала такая вусная дамоўленасць: у выпадку смерці дачка зможа ляжаць побач з імі, як і яе муж. Тым часам брат памёр першым. Сястра ж пачала дабівацца праз суд яго эксгумацыі і перапахавання ў іншым месцы. Суду, можна сказаць, прапаноўвалася роля «ацэншчыка» ступені маральнасці і любові да бацькоў бакоў — вызначыць, хто (брат ці сястра) больш годны спачываць каля бацькоў. Суд паставіў кропку ў гэтай працяглай справе такім чынам, што рацыю і права на пахаванне каля бацькоў мае той з дзяцей, хто першы пакінуў гэты свет. Прасцей кажучы: «Хто першы памёр, той і лёг».

**Юлія Шымкевіч, Гомель**

### Кампенсацыя за зніклую котку

Летам 2014 года суд Чыгуначнага раёна Гомеля разглядаў грамадзянскі пазоў валанцёра па абароне жывёл да маладой жыхаркі абласнога цэнтра, якая ўзяла на «часовае захоўванне» (ператрымку) котку і не вярнула яе назад. Зніклая котка выступала ў судзе як «страчаная маёмасць», кошт якой быў ацэнены заяўнікамі ў мільён рублёў.

Паміж валанцёрам і адказчыцай была вусная дамоўленасць узяць да сябе жыць няшчасную котку. Абгаворвалася, што калі жывёла будзе паводзіць сябе дрэнна, то дзяўчына зможа вярнуць яе валанцёрам.

Але калі маладая жыхарка Гомеля паскардзілася валанцёрам на нягодныя паводзіны коткі і тыя прыехалі яе забраць — жывёла знікла. Котка, у мінулым — бадзяжная, недзе збегла, і дзяўчына не змагла яе вярнуць.

Суд палічыў пазоўныя патрабаванні неабгрунтаванымі і адмовіў у задавальненні пазову.

### 12 гадоў у судах

У пошуках «справядлівасці» грамадзяне не шкадуюць ні свайго часу, ні сродкаў. Так, 12 гадоў грукаецца ва ўсе інстанцыі 87-гадовая жыхарка Гомеля, якая спрабуе даказаць, што яе сын незаконна быў звольнены з працы ў 2002 годзе.

Мужчына працаваў кіроўцам на «хуткай дапамозе», і неяк яго абвінавацiла міліцыя ў крадзяжы паліва. Яшчэ да суду кіроўцу звольнілі «за дзеянні, якія з'яўляюцца падставай для страты даверу з боку наймальніка».

Маці былога кіроўцы, якая абараняе яго інтарэсы, не пагадзілася з такой фармулёўкай і пайшла па інстанцыях. Пачала з раённых судоў, дайшла да генпракуратуры і Адміністрацыі прэзідэнта. Сына на працы не ўзнавілі. Але свае намаганні і сёння не лічыць марнымі.

На пытанне, чаму за гэтыя гады сын не знайшоў іншую працу, жанчына адказвае: «А чаму ён павінен шукаць працу? Яго звольнілі незаконна, і таму ён не павінен ісці месці вуліцы!»



# Хлопец пад спайсамі збіў двух пешаходаў

А пасля збег з-пад варты, **параплыўшы Нёман**.

19-гадовы гарадзенец атрымаў правы ўсяго два месяцы таму.

Як падазрае следства, у ноч на 9 верасня ён прыняў наркотыкі, сумнавядомыя спайсы, а пасля паехаў шукаць прыгоды. А 6-й раніцы «Сеат» з неадэкватным кіроўцам выскачыў на тратуар на вуліцы Белуша. Аўтамабіль пранёсся паміж слупамі і дрэвамі, абмінуў прыпаркаваную «БМВ» і павільён аўтобуснага прыпынка, перасёк праезную частку вуліцы Белуша, на тратуары знёс два спараваных металічныя слупы.

На прыпынку стаялі дзве жанчыны, чакалі аўтобуса. Адна з іх загінула, другую даставілі ў бальніцы. А «Сеат» тым часам прабіў металічны плот, вылецеў на стаянку, дзе спыніўся ад удару аб «Пежо».

Хлопец, якога выцягнулі з-за руля, быў у стане такога дурману, што не мог адказаць нават на элементарныя пытанні, як яго завуць, колькі яму гадоў... У будынку ДАІ ён працягваў пасміхацца, пляваца, гугукаць.

Завезлі яго ў бальніцу, у рэанімацыю. Да палаты прыставілі канвой, але хлопец здолеў уцячы праз акно. Параплыў Нёман і пачаў хавацца ў лесе. Праз некалькі гадзін уцекача-наркамана злавілі. Хлопцу пагражае да 7 гадоў пазбаўлення волі.

**ЯМ**

## Сцісла

### Пачаставаў спайсам — атрымаў восем гадоў

Падлетак, які вучыцца ў Гарадку, з цікаўнасці набыў наркатычную курыльную сумесь, спайс, і пачаставаў таварыша, не папярэдзіўшы аб тым, што менавіта яны будуць паліць. Пасля некалькіх зацяжак падлеткам стала блага, іх у непрытомным стане даставілі ў рэанімацыю. Юнака, які частаваў «спайсам», асудзілі на восем гадоў выхаваўчай калоніі за распаўсюджванне наркотыкаў.

### Ліцэіст на трактары пераехаў пешахода

Днём 21 верасня ў аграгарадку Скрыбаўцы (Шчучынскі раён) 17-гадовы навучэнец ліцэя на трактары з прычэпам перавозіў бульбу. Насустрач па краі праезнай часткі ішоў пешаход. Трактарыст зачапіў яго каўшом, паваліў і пераехаў. Пешаход загінуў.

Юны кіроўца атрымаў пасведчанне трактарыста менш за тры месяцы таму. Магчыма, прычынай здарэння быў неналежны стан тармазной сістэмы трактара. Заведзена крымінальная справа.

### Пяцігадовае дзіця патанула ў ванне

У Мінску пакінутая без нагляду пяцігадовая дзяўчынка патанула ў ванне. Ад пачатку года гэта трэці такі выпадак. Раней у ванне патанулі два пенсіянеры, якія пакутавалі на захворванні сардэчна-сасудзістай сістэмы.

### Адпрацаваў два тыдні — і папаўся на хабары

30-гадовы дырэктар аднаго з мінскіх ЖЭСаў узяты пад варту. Ён атрымаў хабар памерам 5 мільёнаў рублёў за заключэнне фіктыўнай дамовы на тэхнічнае абслугоўванне арандаванага памяшкання. Дырэктар ЖЭСа адпрацаваў на пасадзе ўсяго два тыдні.

### На радзіме Лукашэнкі гарэла ферма

У Шклоўскім раёне раніцай 21 верасня адбыўся пажар на малочна-таварнай ферме ў вёсцы Александрыя. Было эвакуявана 100 кароў. Пацярпелых няма. У выніку пажару быў пашкоджаны пагрузчык «Амкадор». Мяркуецца, што прычынай стала кароткае замыканне электраабсталявання.

### Краму абрабавалі двойчы за дзень

У адзін дзень два падобныя злачынствы былі здзейсненыя ў адной краме па вуліцы Савецкай у Лідзе. Спачатку раней судзімы мясцовы жыхар на вачах у пакупнікоў выкраў бутэльку гарэлкі з прылаўка, каб пахмяліцца. А праз некалькі гадзін яшчэ адзін раней судзімы лідчук выкраў два пачкі масла. Абодва рабаўнікі затрыманыя.

### Падлеткам-забойцам далі па 13 гадоў

Магілёўскі абласны суд вынес прысуд па справе забойства дзіцяці ў Бабруйску. Вінаватымі прызнаныя двое 16-гадовых мясцовых жыхароў. У стане алкагольнага ап'янення яны ўтрымлівалі хлопчыка ў закладніках і патрабавалі выкуп, а пасля забілі. Цела ахвяры знайшлі ў Бярэзіне. Кожнага з забойцаў асудзілі на 13 гадоў у выхаваўчай калоніі. Прысуд можа быць абскарджаны.

**ЯМ**

# Сэкс у невялікім горадзе

**П'яная парачка** занялася сэксам ў цэнтры Светлагорска.

Малады хлопец зняў іх любошчы на мабільнік і выклаў у інтэрнэт. У выніку, у дачыненні да яго распачата крымінальная справа.

Аб падрабязнасцях справы распавёў «Нашай Ніве» Алег Бараноўскі, старшы следчы Светлагорскага райаддзела Следчага камітэта.

8 жніўня 25-гадовы хлопец з сяброўкай каталіся на роварах, прыехалі на светлагорскую набярэжную. Там яны заўважылі нецвярозую парачку. Яна, не саромеючыся мінакоў, займалася сэксам проста за сцэнай, размешчанай на той жа набярэжнай. Хлопец зняў гэты выпадак на мабільны тэлефон і на наступны дзень «заліў» відэа ў сацсеткі. Як ён тлумачыў потым, мэтай было «паказаць дэградацыю людзей пад уплывам алкаголю».

Праз трое сутак відэаролік заўважылі супрацоўнікі Упраўлення па наркакантролі і супрацьдзеянні гандлю людзьмі МУС РБ, якія праводзяць маніторынг сацсетак. І супраць «аператара» была распачата крымінальная справа па артыкуле «Выраб і распаўсюд парнаграфічных матэрыялаў або прадметаў парнаграфічнага характару (...) з выкарыстаннем глабальнай камп'ютарнай сеткі інтэрнэт».

Другая частка артыкула прадугледжвае пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад двух да чатырох гадоў. Але, як паведаміў Алег Бараноўскі, у турму аўтар відэа, хутчэй за ўсё, не трапіць — хлопец мае станоўчыя характарыстыкі і ўжо ўсвядоміў віну і раскаяўся ў зробленым. Да таго ж, злачынства не адносіцца да катэгорыі цяжкіх.

Дарэчы, знайсці герояў відэароліка міліцыянтам так і не ўдалося.

**Уладзіслаў Швядовіч**

## Сцісла

**Канчаткова на зімовы час?**

Уначы 26 кастрычніка Беларусь можа канчаткова перайсці на зімовы час па прыкладзе суседняй Расіі. Гэтае пытанне зараз знаходзіцца на разглядзе ў Савеце міністраў.

**У Беларусь прыйшла астранамічная восень**

22 верасня ў Мінску сонца ўзышло ў 07:01, а зайдзе ў 19:01, што складае роўна 12 гадзін.

Сонца перасякае нябесны экватар і пераходзіць з паўночнага паўшар'я нябеснай сферы ў паўднёвае.

Ад 24 верасня дзень пачне пакрысе змяншацца, будзе гэта доўжыцца недзе да 22 снежня, калі будзе найдаўжэйшая ноч..

Дарэчы, з-за рэфракцыі, якая быццам бы прыўзнімае сонца над гарызонтам, светлавы дзень усё ж крыху даўжэйшы.

**Жыхару Гомеля не ўдалося прадаць тараканаў праз Ay.by**

Няўдачай скончылася спроба жыхара Гомеля прадаць праз інтэрнэт-аўкцыён Ay.by прусакоў. Інтэрнаўт прапаноўваў іх па 2000 рублёў за штуку ў якасці добрага корму для хатніх гадаванцаў. А ўвогуле, на тых інтэрнэт-таргах чаго толькі ні прадаюць: ад старых пласцінак да бабіных куфраў...

**СГ**

## Прырода



Беларус Сяргей Плыткевіч — адзін з найлепшых у свеце фатографаў, якія здымаюць жывую прыроду. Прапануем Вашай увазе некалькі ягоных новых кадраў.

Ліс узлятае.



Камусьці галінку ўжо падарылі.

## Здароўе

# Хадзіць лепш не раз на дзень, а штогадзіну патроху

**Сядзячы лад жыцця** — небяспека для здароўя.

Даследаванне, праведзенае супрацоўнікамі амерыканскага Нацыянальнага інстытута раку, паказала вышэйшы ўзровень смяротнасці сярод тых людзей, якія праводзілі шмат часу седзячы.

Шкода ад сядзення тлумачыцца застоем крыві ў нагах, што выклікае эндатэліяльную дысфункцыю. Пры гэтым парушаецца нармальная праца ўнутранай высцілкі сасудаў і сэрца, адказнай за кантроль артэрыяльнага ціску.

Што рабіць, калі праца ў вас сядзячая? Раз на гадзіну 5 хвілінаў гуляйце, раяць навукоўцы.

Група даследчыкаў з універсітэта Індыяны ў ЗША правяла эксперымент. 12 мужчын з нармальнай вагой цела былі падзеленыя на дзве групы. Першая група беспарапынна сядзела цягам трох гадзін. Другая група тройчы перарывала сваё трохгадзіннае сядзенне павольнымі 5-хвіліннымі прагулкамі (пасля 30 хвілін, 1,5 гадзіны і 2,5 гадзіны сядзення).

Праз тры гадзіны навукоўцы ультрагукам праверылі стан артэрый мужчын.

Артэрыі «сядзельцаў» звузіліся на 50%, а прыліў крыві да ног таксама знізіўся. А вось у прадстаўнікоў другой групы не назіралася значных змен у стане артэрый.

Лепш часцей пераключацца з сядзення на хаджэнне, раяць навукоўцы.

**Кірыла Хілько**



**Камертон Сяргея Ваганава**

# Людзі і коні

Цікавы ўсё ж здабытак прагрэсу — Фэйсбук. Соўгаешся па ім у пошуках «брыльянтаў», што накулупалі ў Сеціве твае «фрэнды», сочыш за ўсплёскамі іх думак... І нечакана трапляеш на чалавека, якога не бачыў, нават не згадваў усе 50 з каля гадоў, з блаславёных часоў маладосці. Ну, вядома, зноў «сябры» — добразычлівыя каментары, безліч лайкаў... І раптам — «...мы апынуліся па розныя бакі барыкады... Час парасстаўляе ўсё па сваіх месцах...»

«Барыкадай», не цяжка здагадацца, стала рознае стаўленне да падзей у Данбасе, увогуле ва Украіне. Адна спадзяванка — на ўсёмагутны Час, які, па меркаванні нечаканага апанента, ізноў узнясе Расію на вяршыню Гісторыі. У якасці аргумента ён нават выбудаваў своеасаблівы гістарычна-пераможны ланцуг: 1612... 1812... Нібыта ў 2014-м не Пуцін выхваляецца «ўзяць Кіеў» за два тыдні, а Парашэнка наблізіўся да сценаў Крамля і чакае ключы...

«Барыкаднае» мысленне, заштампаваная спасылка на Час... Спрачацца ў такіх варунках бессэнсоўна. Аднае што вымагае задумацца: ці сапраўды Час здольны парасставіць усё па сваіх месцах? Вось пастаўіў жа, прабачце за таўталогію, у свой час Зямлю на жыццяздольнае месца ў Космасе. Пакуль не прыляціць чарговы за мільёны гадоў астэроід ды не зрушыць з таго месца і Зямлю, і чалавецтва з усім Часам ягонай гісторыі.

Ды што там доўгачаканы астэроід! З'явіцца такі маленькі чалавечак, падыдзе, нібы качаня, да маленькага кавалка Зямлі пад назвай, напрыклад, Крым, зрушыць на сваю карысць з месца, на якім, здавалася, той замацаваўся назаўсёды... І вось ужо не 50 мільёнаў загінулых, а нават падліччыць не выпадае, бо ўжо няма каму. І ніякі Час ужо не парасстаўляе ўсё на свае месцы...

Не перабольшвай, чуецца, не дуры. Ды не дуру я. Гэта Чаплін калісь дурыў. Памятаеце ягонага «Вялікага дыктатара», як той з зямным шарам забаўляўся?

Яно, увогуле, уласціва дыктатарам, хоць вялікім, хоць маленькім — забаўляцца з зямным шарам. Хто ў выглядзе глобуса на палову кабінета, хто — насамрэч...

## Там, у Шатландыі — людзі. А тут?



Сёння, калі пішу гэтыя нататкі, чацвер, 18 верасня. У Шатландыі рэферэндум. Вынікі мне яшчэ невядомы. Але ці зрушыцца Шатландыя з месца, якое займала 300 гадоў, ці застанецца ў звыклай сістэме гістарычных каардынат, можа ўпэўнена сцвярджаць, што не Час расстаўляе ўсё па сваіх месцах, а людзі. Там, у Шатландыі — людзі.

А тут?

Тут — нейкія выпадковыя асобы. Спрадвечныя людской ляноты і страху ўласна вырашаць свой гістарычны лёс. Што ж здзіўляцца, што забаўкі з зямным шарам здзяйсняюцца «ад імя» народаў і «ў імя» нібыта спрадвечных нацыянальных інтарэсаў!

Ну, вось паставіў, здаецца, Час на сваё месца нашу краіну, 75 гадоў як уз'яднаў усходніх і заходніх братоў. Але што ні год, выбухае спрэчкамі, як ставіцца да таго ўз'яднання: як да здзяйснення спрадвечнай мары ці як да сталінска-гітлераўскага злачынства? Як да вызвалення з-пад польскага прыгнёту ці як да зняволення дыктатарскім рэжымам СССР?

Чаму?

Мо таму, што злачынствы, якімі суправаджалася ўз'яднанне, засталіся непакаранымі.

Непакараным застаўся рэжым, для якога канчатковым сродкам «ставіць усё на сваё месца» заўжды былі гвалт, вайна.

Рэжым, які ледзь што не па ім, выпупліваецца ў розных абліччах з непакаранага Зла.

...На адной з частак трыпціху, што займае ледзь не ўсю, ад падлогі да столі, сцяну ў новым памяшканні музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны, чорнае Зло пранізвае дзідай нейкі кентаўр — ці то напалову зубр, ці то конь... «Рыцарам свабоды» назваў яго вядомы мастак Уладзімір Крываблоцкі. Не буду аспрэчваць метафару, мастакі бачаць свабоду па-рознаму. Дэлакруа ў выглядзе аголенай жанчыны на барыкадах, Крываблоцкі — у выглядзе страшыдлы-кентаўра на капытах. Глядзеў я на таго «вызваліцеля», і згадаўся эпізод, які распавяла мне аднойчы маці.

У верасні 1939 года яна, пакінуўшы дачку сябрам, рушыла з войскам стварыць і рэдагаваць у Пінску газету. Яна і сёння існуе, «Палеская праўда». А тады, на адным з прапагандысцкіх заняткаў з працаўнікамі друкарні старыя яўрэй-наборшчык запытаўся: «Мадам, я вас правільна зразумеў, што генеральная лінія партыі — гэта нібыта маставаяʔ» — «Так, правільна». — «Але ж, мадам, па маставой ходзяць толькі коні. А людзі — справа і злева па тратуарах...»

У той жа дзень маці прыдбала ў мясцовай краме серабрыстыя туфлікі і сцягнула з ног вайсковыя боты. Так і хадзіла па пінскіх тратуарах — у шынялі і серабрыстых туфліках.

Нешта ж Час сапраўды расстаўляе па сваіх месцах. Мо і той след, што пакінулі тыя туфлікі ў верасні 1939 года...

*kamerton_41@mail.ru*

# Гендырэктара «Барысаўдрэва» прывезлі ў суд з сінякамі пад вачыма

**Уладзіміру Мальцаву** пагражае да 10 гадоў турмы.

У Мінскім абласным судзе пачаўся разгляд справы былога генеральнага дырэктара «Барысаўдрэва» Уладзіміра Мальцава. Яго вінавацяць у прычыненні стратаў дзяржаве на $2 мільёны і зрыве мадэрнізацыі прадпрыемства.

Крымінальная справа за злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі — дальнія адгалоскі разносу, які ўчыніў Аляксандр Лукашэнка, наведаўшы «Барысаўдрэў» 7 лістапада 2013 года. Тады ён адхіліўся ад прапананага маршрута і ўбачыў на прадпрыемстве непрыбраную тэрыторыю.

Ад пасадаў былі адхіленыя губернатар Мінскай вобласці Барыс Батура, намеснік кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта Андрэй Тур, а таксама кіраўнік «Беллеспаперпрама» Аляксандр Пераяслаўцаў. Дасталася і Мальцаву, аднак ужо на наступны дзень яго «памілавалі». Дзяржаўныя тэлеканалы знялі сюжэты пра маладога гаспадарлівага дырэктара, якога нібыта падставілі безадказныя чыноўнікі.

Работнікі завода адзінагалосна падтрымлівалі маладога дырэктара, але ў выніку менавіта ён можа стаць галоўным вінаватым.

Мальцаў знаходзіцца пад вартай з 13 сакавіка. Падчас следства былі накладзены арышт на яго маёмасць. Агулам налічылі менш чым $40 тысяч, гэта цана невялікай кватэры ў Барысаве і аўтамабіля.





На судзе Мальцаў выглядаў жудасна: пад вачыма выразныя сінякі. Адвакат Зміцер Гарачка не стаў гаварыць пра стан здароўя свайго падабароннага, спаслаўшыся на адвакацкую этыку.

У чым вінавацяць былога дырэктара? «Пры выбары пастаўшчыка абсталявання Мальцаў не адхіліў прапанову турэцкай кампаніі «Персей», абсталяванне якой не адпавядала неабходным патрабаванням. Пры гэтым ён, разумеючы страты, якія наносяцца прадпрыемству, не разгледзеў іншых удзельнікаў конкурсу. Калі турэцкая кампанія пачала зацягваць тэрміны пастаўкі абсталявання, Мальцаў не зрабіў крокаў у адказ. А пасля заключыў з кампаніяй дамову на мантаж абсталявання, хоць тая не мела дазволу на гэты від працаў», — заявіў дзяржаўны абвінаваўца.

Мальцаў не прызнаў сваёй віны, патлумачыў, што ў яго дзеяннях не было асабістай зацікаўленасці.

Сваю версію сітуацыі з туркамі ён расказваў яшчэ год таму ў эфіры АНТ: «Тры летнія месяцы ніхто не пачынаў мантажу. Я іду ў Міністэрства архітэктуры, у аблвыканкам, у дзяржкантроль: што рабіць будзем? Паўторна абвяшчаю конкурс, ніхто не згаджаецца. Прыходзіць адзіны падрадчык — турэцкая кампанія. Што рабіць? Складаем ліст да Сямашкі за подпісам трох міністраў, пасля дазволу заключаем кантракт. І тут як тут прыязджае дзяржкантроль. І мяне за заключэнне гэтага кантракта пачынаюць штрафаваць».

За злоўжыванне службовымі паўнамоцтвамі Уладзіміру Мальцаву пагражае да 10 гадоў пазбаўлення свабоды з канфіскацыяй маёмасці.

**Ягор Марціновіч**

# «Афіцэр у вышыванцы» збіраецца вярнуцца з Сібіры ў Беларусь

Дзякуючы **Алегу Рудакову** ў Віцебску можа з'явіцца помнік Чэрскаму.

Алег Рудакоў — беларус, які нарадзіўся пад Полацкам, а жыве ў Іркуцку. У свой час ён паступіў у вайсковую вучэльню ў Цюмені і пасля быў размеркаваны ў Віцебскую Гвардзейскую дывізію ў Іркуцк. Там Рудакоў і застаўся. Цяпер займаецца бізнэсам. Але не толькі зарабляе грошы. 19 гадоў таму ён стварыў Іркуцкае таварыства беларускай культуры імя Яна Чэрскага. На яго святы, накшталт Купалля, збіраецца да 300 удзельнікаў.




«На нашай эмблеме «Пагоня», бел-чырвона-белы сцяг, Ян Чэрскі і Байкал. Гэта азначае, што мы — беларусы, якія жывуць каля Байкала, — шануем традыцыі і сімвалы продкаў ды працуем на карысць нашай культуры, як у свой час Ян Чэрскі працаваў на карысць навукі, — кажа Рудакоў. — Акрамя святаў, мы праводзім і гістарычныя вечарыны, вывучаем народныя танцы і спевы».

Менавіта з яго дзейнасцю і звязаны сёлетні візіт на радзіму. Рудакоў як адзін з удзельнікаў іркуцкага гурту «Крывічы» выступаў на Другім фестывалі мастацтваў беларусаў свету, які прайшоў у Мінску з 12 па 14 верасня.

Да таго ж Рудакоў быў госцем на Кансультацыйнай радзе па справах беларусаў замежжа, пасяджэнне якой праходзіла ў межах фестывалю. На радзе Рудакоў і агучыў дзве свае ідэі. Па-першае, ён папрасіў дапамогі з матэрыяламі для сваёй будучай кнігі «Беларусы Прыбайкалля».

Другая прапанова — паставіць у Віцебску помнік Яну Чэрскаму, а дом, дзе пасля смерці навукоўца жыла яго жонка, ператварыць у музей.

Па яго словах, ідэя з помнікам Чэрскаму міністру культуры Барысу Святлову спадабалася. Чыноўнік паабяцаў, што накіруе ліст віцебскаму губернатару Аляксандру Косінцу, каб ён гэтай ініцыятыве паспрыяў.

«Любоўю на адлегласці» цікавасць Алега Рудакова да Беларусі не абмяжоўваецца. У яго планах — пераезд на радзіму. Канкрэтных тэрмінаў «сібірскі беларус» пакуль перад сабой не ставіць, але падкрэслівае, што рана ці позна гэта адбудзецца. Прычым ён ужо ведае, дзе будзе жыць.

«Самы любімы горад — мой родны Полацк!» — пасміхаецца Рудакоў.

**Улад Швядовіч**

**Смолка таёжная**

Замест сувеніраў Алег Рудакоў прывёз у Рэдакцыю «Нашай Нівы» пакуначкі са смалой лістоўніцы. Аказваецца, у Сібіры яе жуюць. Лічыцца, што яна карысная для зубоў.

**Ян Чэрскі (1845–1892)**

– вядомы даследчык Сібіры. Нарадзіўся на Віцебшчыне, вучыўся ў Вільні.

Юнаком Чэрскі браў удзел у паўстанні 1863 года. Трапіў у палон, пасля чаго быў асуджаны на бестэрміновую рэкрутскую службу ў Сібіры з канфіскацыяй маёмасці і пазбаўленнем дваранскага звання. Чэрскі атрымаў пасаду бібліятэкара музея ў Іркуцку і пачаў удзельнічаць у экспедыцыях Геаграфічнай суполкі. Ён лічыцца першаадкрывальнікам вытокаў ракі Лены, укладальнікам першай геалагічнай карты возера Байкал.

Праз 20 гадоў ссылкі Чэрскі атрымаў памілаванне і выклік у Пецярбург. Навуковец зладзіў трохгадовую экспедыцыю на Калыму, дзе шукаў парэшткі мамантаў. Але падчас падарожжа захварэў і памёр.

**Фотафакт**



## Беларускі ліцэй

Урачыстай лінейкай пачаўся навучальны год у Беларускім ліцэі імя Якуба Коласа. Сем дзясяткаў ліцэістаў, вучняў 8–11 класаў, а таксама іх бацькі і педагогі сабраліся каля будынка, у якім у 1990–2003 гадах месціўся Ліцэй.

Ліцэй навучае па-беларуску. Гэта была пілотная такая ўстанова. Да 2003 года ён дзейнічаў афіцыйна. Пасля ліквідацыі перайшоў у падполле. Пасля руку дапамогі працягнулі палякі, і на сёння дзейнасць Ліцэя ажыццяўляецца на юрыдычнай базе навучальных установаў Гданьска.

# У Літве затрымалі начальніка ўпраўлення Следчага камітэта па Мінску?

Сямейная пара з Беларусі не задэкларавала **пісталетныя патроны**.

Іх выявілі мытнікі 21 верасня на КПП у Медніках (па-літоўску Мядзінінкай). Сям'я вярталася з Літвы ў Беларусь на аўтамабілі Honda CR-V. Патронаў калібру 9 мм Luger было ўсяго некалькі дзясяткаў, паведамляе пракуратура Літвы.

І мужа, і жонку затрымалі. З імі ўжо сустрэўся беларускі консул.

СМІ паведамілі са спасылкай на пэўныя крыніцы, што гаворка ідзе пра Дзмітрыя Канапляніка — начальніка ўпраўлення Следчага камітэта па Мінску, які выязджаў у Літву па асабістых справах.

Ва ўпраўленні Следчага камітэта па Мінску кажуць толькі, што Дзмітрый Канаплянік знаходзіцца ў адпачынку ўжо тыдзень. Больш ніякай інфармацыі не даюць.



**СГ**

# Літаратурны конкурс імя першага рэдактара «Нашай Нівы» Аляксандра Уласава




Цырымонія ўзнагароджання пераможцаў — 25 верасня

25 верасня (чацвер) ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» запрашае на ўрачыстую цырымонію ўзнагароджвання пераможцаў літаратурнага конкурса «Экслібрыс» імя Аляксандра Уласава Крысціны Бандурынай, Антона Рудака, Ганны Севярынец, Хведара Сумкіна, Аляксея Шэіна.
Прызы ўручаць прадстаўнікі кампаніі Prestigio, грамадскай культурніцкай кампаніі «Будзьма беларусамі!», газеты «Наша Ніва».

**Месца: Крэатыўная прастора ЦЭХ (пр. Незалежнасці, 58, корпус 6).**
**Пачатак а 18.30.**
**Уваход — вольны.**

## «Нам сёння сказалі, што ад кожнага класа 10 дзяцей павінна ўступіць у піянеры»

«Нам сёння сказалі, што ад кожнага класа 10 дзяцей павінна ўступіць у піянеры. Мы з мамай не хочам, каб мяне запісалі ў піянеры. Скажыце, што нам рабіць?» — такое пытанне даслала ў нашу газету **Варвара Б. з Мінска**.

Дарагая Варвара, згодна з законам, цябе не маюць права запісваць ні ў якія арганізацыі без згоды бацькоў. Так і перадай тваім настаўнікам.

Аналагічная норма прысутнічае і ў статуце піянерскай арганізацыі. «11. Дзеці і падлеткі, з 7 да 16 гадоў, уступаюць у арганізацыю толькі з пісьмовага дазволу сваіх законных прадстаўнікоў».

# Частата разладу

У мяне шмат недахопаў, як і ў большасці людзей, але на адзін усё ж больш, чым у іншых. Я — радыёаматар. Вось ужо каля паўстагоддзя.

Радыёаматары — увасабленне сапраўднага інтэрнацыяналізму. Людзі ўсіх краін, усіх рас, усіх веравызнанняў камунікуюць паміж сабой, незалежна ад палітычнай кан'юнктуры. Яны могуць пагаварыць з інжынерам з Аўстраліі, каралеўскай асобай з Блізкага Усходу ці амерыканскімі сенатарамі. У эфіры няма рангаў, пасад, званняў, няма нічога, што падзяляе людзей у жыцці. І таму фінансавыя і, тым больш, палітычныя праблемы заўсёды заставаліся за мяжой размоваў. І гэта не толькі абумоўлена ўмовамі міжнароднага статута радыёаматарства, але і нармальнымі чалавечымі адносінамі паміж рознымі людзьмі, якіх аб'ядноўвае ў жыцці толькі адно — аматарскае радыё.

Радыёаматары калісьці былі самымі ветлівымі людзьмі ў свеце. Словы «дзякуй», «калі ласка», «будзьце ласкавыя» — заўсёды ў лексіцы нармальнага аматара. І яшчэ — 73. У радыёаматарскім кодзе гэтыя лічбы азначаюць глыбокую павагу і найлепшыя пажаданні. Гэтыя словы дагэтуль застаюцца галоўнымі ў радыёаматараў усяго свету. Дакладней сказаць, у переважнай большасці. Акрамя часткі ўкраінскіх і расійскіх радыёаматараў. Не сакрэт, што апошнія падзеі ва Украіне раскалолі грамадства ў постсавецкіх рэспубліках. І гэты раскол нечакана для ўсіх «насельнікаў эфіру» здарыўся і тут. Частата на саракаметровым дыяпазоне 7.050 МГц стала ў апошнія паўгода пагалоскай. Тут сыходзяцца штодня, круглыя суткі напралёт найбольш заўзятыя прыхільнікі абодвух бакоў — Расіі і Украіны. Пераважаюць, вядома, расейцы. Што тут робіцца, цяжка растлумачыць чалавеку, які ніколі не слухаў аматарскага эфіру. Скажу проста: вэрхал у параўнанні з гэтай агіднасцю — проста дзіцячы сад. Ніхто нікога не слухае, усе радыёстанцыі працуюць толькі на перадачу, больш магутныя станцыі перакрываюць слабыя, хтосьці проста ставіць перашкоды, хтосьці ўключае музыку, і ўсе гавораць, гавораць, гавораць... І над усім гэтым пануе вялікі і магутны рускі мат, замяняючы ўдзельнікам усе астатнія довады і аргументы. Прызнаюся, што хоць я і вырас у краі і ва ўмовах, дзе лаянка часам замяняла самыя звычайныя паняцці, але такога мату я ў жыцці не чуў ніколі. У самае сумнае ў гэтым — гэтыя людзі называюць і лічаць сябе радыёаматарамі! У апошні час з'явіўся і новы сродак для доказу сваёй слушнасці. У эфіры пачынаюць гучаць фрагменты тэлевізійных і радыёперадач, трансляцыі рэпартажаў з інтэрнэту, балазе сучасная тэхніка дазваляе. Калі мат толькі кветачкі, якія гавораць толькі пра нізкую культуру і адсутнасць самапавагі ў людзей, то такія трансляцыі парушаюць асновы радыёаматарства, у кодэксе якога выразна прапісана, што ў аматарскім эфіры не могуць трансліявацца любыя камерцыйныя і дзяржаўныя праграмы. На тое яно і аматарскае. І гэта праўда, для чаго тады існуе велізарная сетка тэлестанцый і праграм. Яны ж займаюцца той жа самай палемікай і прапагандай розных пунктаў гледжання, але са значна большым размахам. Карацей кажучы, як у камп'ютар, у аматарскі эфір пракраўся небяспечны вірус, з якім неабходна змагацца. Да гонару беларускіх радыёаматараў, яны, у асноўным, застаюцца ў баку ад усеагульнага вэрхалу хамства і грубасці ў эфіры, часам нават спыняюць спробы расійскіх станцый уцягнуць іх у палеміку, сам не раз быў сведкам гэтага. Сумна і балюча назіраць за такой дэградацыяй аматарскага эфіру. Бо кожны раз кожны радыёаматар, выходзячы ў эфір, прэзентуе не толькі сябе, але і ўсю краіну, пра якую ў свеце мяркуюць не толькі па палітыках, але і па радыёаматарах. 73!

**Віктар Ледзенеў, Мінск**

### Фотафакт



ГОСУДАРСТВЕННОЕ УЧРЕЖДЕНИЕ ОБРАЗОВАНИЯ
«МИНСКОЕ ГОРОДСКОЕ КАДЕТСКОЕ УЧИЛИЩЕ № 2»
ПРИГЛАШАЕТ НА РАБОТУ:

- инженера-программиста – з/плата от 3 000 000 бел.руб. (возможно совместительство);
- водителя на автобус кат. C,D – з/плата от 2 000 000 бел.руб. (возможно совместительство);
- уборщиков служебных помещений – з/плата от 2 500 000 бел.руб. (возможно совместительство);
- дворника - – з/плата от 1 500 000 бел.руб. (возможно совместительство);
- швею – з/плата от 1 500 000 бел.руб.;
- рабочию по стирке и ремонту спец.одежды – з/плата от 1 500 000 бел.руб.;
- рабочего по комплексному обслуживанию зданий и сооружений (электрика) – з/плата от 2 000 000 бел.руб. (возможно совместительство).

Училище расположено в здании бывшей санаторной школы-интерната № 2 по адресу: Логойский тракт, 136.Тел. 237-09-88; 237-09-89; 8-029-76-58-144

Убачыў на дошцы аб'яў свежы шматок паперы і звярнуў на яго ўвагу. Пачытаў — і сэрца спатыкнулася: няўжо ўсё настолькі дрэнна ў адукацыі, якой і сам аддаў некалькі гадоў маладога жыцця?
Інакш, чым замаскіраваным крыкам аб дапамозе, не назавеш. А побач, як здзек, аб'ява, якая рознарабочым прапануе ад 6 млн на рукі...

**Былы настаўнік**

### Вар'яты



Кожны дурэе пасвойму, але так, як 21-гадовая амерыканка, якая карыстаецца псеўданімам Джэсмін Трыдэвіл, не дурэў яшчэ ніхто. Жыхарка штата Фларыда зрабіла пластычную аперацыю: ёй прышылі трэцюю цыцку. А ўсё дзеля таго, каб запусціць уласнае рэаліці-шоу. Бацькоў дзяўчыны гэтая навіна проста прыбіла. Маці нават выбегла з пакоя, калі пачула ад дачкі аб «прыбаўленні».

### Фотажаба




**Экс-чэмпіёнка па гімнастыцы Аліна Кабаева здала свой дэпутацкі, «Адзінай Расіі», мандат. Зараз яна ўзначаліць найбуйнейшы медыяхолдынг, у які ўваходзяць Рэн-ТВ і «Лайфньюс». Хадзілі чуткі, што гэта яна была прычынай разводу Уладзіміра Пуціна.**

## У Рось сцякаюць пестыцыды

У саўгасе «Зара і К» Ваўкавыскага раёна ўжываюць пестыцыд «Раўндап» у водаахоўнай зоне рэчкі Рось. І ляціць ён проста на гароды людзям. На просьбу распыляць далей ад агароду аграхімік катэгарычна адмовіў. Што рабіць?

**7.za.7.az.47**

**Ад Рэдакцыі.** Калі Вы ўпэўненыя, што саўгас парушае нормы, то звaніце ў райвыканкам, у санстанцыю, падымайце шум. Але для гэтага трэба мець доказы.

### Прыватныя абвесткі

Майстар народнай творчасці Галіна Рудніцкая запрашае ў студыю беларускай народнай вышыўкі. Заняткі з кастрычніка па май — раз на тыдзень (ранішнія і вячэрнія групы). Адрас: вул. Гікалы, 4 (станцыя метро «Плошча Якуба Коласа»). Для іншагародніх магчымае інтэнсіўнае навучанне. Заняткі два разы на месяц з лістапада па сакавік. Тэлефон: (029) 171-13-90.

ЦЯСЛЯРСКІЯ ПРАЦЫ
Шафы-купэ, пярэднія пакой, кухня, гардэроб, ды інш.
Зборка корпуснай мэблі.
Беларускамоўным — зніжкі.
8044 4619020 (Velcom)
8029 5579006 (МТС)
ІП Дашкевіч Д.В., УНП 691599592

# Урокі ўкраінскай вайны

Піша **Наталка Бабіна**.

Летась пасля Львоўскага кніжнага форуму я напісала аптымістычны артыкул «Не ўмерла і не ўмрэ: Украіна дасягнула ашаламляльнага поспеху». Асноўная думка была ў тым, што Украіна, украінская мова ўжо мінулі кропку невяртання. Не думала я тады, што ашаламляльныя поспехі Украіны ў разбудове нацыі ўжо шмат год не давалі спакою Путлеру...

За гэты год Украіна перажыла многае. І мы таксама многае перажылі і перадумалі. І вось зноў я выпраўляюся на Львоўскі кніжны форум.



**Львоў балюе. Львоў сядзіць у кавярнях. І адначасова — хаваюць забітых на вайне.**

### Наташа, а Вы не баіцеся?

— Наташа, а Вы не баіцеся? — Б.С., адзін з самых паспяховых выдаўцоў Беларусі, глядзіць на мяне з цікавасцю.

— А чаго б я мела баяцца?

— Ну, па логіцы, яны зараз адзін аднаму масты павінны пачаць узрываць, чыгуначныя калеі...

— Ды ну. Не перабольшвайце. Але не паехаць не магу. Хачу падыхаць украінскім паветрам, хачу па-ўкраінску пагаварыць, падтрымаць сяброў.

— Што ж, тады, можа, пашукаеце для нас там партнёраў?

— А з задавальненнем, дарагі Б.С.! Што Вы хочаце ім прапанаваць?..

Вечарам таго дня загружаюся ў цягнік Магілёў—Чарнаўцы з квітком да Львова.

### Па дарозе туды. Хутчэй бы ўсё скончылася…

— З якою мэтою йідэтэ?

Суровы ўкраінскі мытнік глядзіць на мяне пільна.

— А погуляты!

— Погуляты? То добрэ! — ён расплываецца ва ўсмешцы і крочыць далей.

Мала хто ў вагоне едзе «погуляты». Насупраць мяне сядзіць прыгожы хлопец з сумнымі вачыма.

— Скуль Вы?

— З Чарнаўцоў. У брата быў у гасцях у Мінску. Цяпер вяртаюся дамоў.

— Ну і як у Вас там, у Чарнаўцах, агульны настрой?

— Ну як... Хутчэй бы гэта ўсё скончылася.

— Я думала, у Вас там, на захадзе, усе патрыёты Украіны...

— Па-рознаму. У нас вялікія малдаўскія сёлы. Гэта Валынь і Львоў больш украінскія. У нас жывуць бежанцы з Данбаса. Працаваць не хочуць, ад позваў хаваюцца... А мне вось мае прыйсці позва. Нашто нам той Данбас? Хай бы аддзяляліся. Хутчэй бы гэта ўсё скончылася.

### У ранішнім тумане

Цягнік прыбывае ў Львоў яшчэ поначы. На горад упаў густы туман. З торбаю на колах пацікеньку іду па платформе — спяшацца мне няма куды. Вось побач ідзе група салдат, якія, відаць, вярнуліся з фронту. Яны ў аднастроях, з рукзакамі, з тэрмаізаляцыйнымі турысцкімі дыванкамі, якія расцілаюць, калі трэба спаць на зямлі... Спакойныя, стомленыя твары. Іх ніхто не сустракае — відаць, са Львова хлопцы паедуць яшчэ далей, у гарадкі ды сёлы. Толькі побач з адным з іх, — напэўна, львавянінам — ідзе жонка. Твар яе свеціцца шчасцем. Яе муж — цемнавалосы і высокі — стрыманы.

— Каму таксі, каму таксі? — зазываюць кіроўцы.

Але гэтая пара праходзіць міма і губляецца ў густым львоўскім тумане.

Але чаму ж, сапраўды, іх ніхто не сустракае?

### А колькі ў іх дывізій?

Львоўскі кніжны форум, які сёлета праходзіў у 21 раз, — з'ява сапраўды ўнікальная. Гэта такая квінтэсенцыя ўкраінскай кніжнай культуры. Пачыналася ўсё з невялікай выставы, у якой бралі ўдзел 47 чалавек, а цяпер вырасла да найбуйнейшага кніжнага кірмашу, які мае вялікі міжнародны аўтарытэт. Адзін каталог удзельнікаў займае 380 старонак дробным шрыфтам.

Сам кніжны кірмаш займае тры паверхі Палаца мастацтваў і двор. Акрамя непасрэдна кніжнага кірмашу, паралельна праходзіць яшчэ Літаратурны фестываль, праграма якога на кожны дзень — безліч прэзентацый, круглых сталоў, сустрэч з чытачамі, прычым не толькі на самім тлумным кірмашы, а на больш як 300 «майданчыках» — у кавярнях, тэатрах, бібліятэках, гатэлях. Сёлета рэкламныя матэрыялы, у тым ліку і праграмкі, аддрукаваныя, у адрозненне ад папярэдніх гадоў, на таннай газетнай паперы. Эканомія.

Але продажы нават выраслі. Львоў застаецца «чытаючым горадам».

На Форум з'ехаліся сотні інтэлектуалаў з усяго свету — ад Цімаці Снайдэра да Уліцкай. На сустрэчах з імі шматлюдна.

Перабягаючы з адной сустрэчы на іншую, міжволі шукаю: ці ёсць у жыцці горада прыкметы ваеннага часу? Прыкметы таго, што хутка і тут могуць узрываць масты? Ну, на вуліцах больш маладых мужчын ва ўніформе; на праспекце Свабоды стаяць намёты, у якіх збіраюць дапамогу для арміі; калі купляеш нешта, на чэку можа быць дадатковы радок «1 грыўня — дабрачынны збор на патрэбы войска»; на плошчы Рынак пры натоўпе турыстаў наглядна паказваюць, як аказаць першую дапамогу параненаму... І гэта ўсё.

Я задумваюся: а гэтага дастаткова? Супер, што інтэлектуалы аналізуюць і праводзяць паралелі, але, як казаў незабыўны І.В.: «А колькі ў іх дывізій?»

### Тылавы Львоў

Мае сумневы павялічваюцца, калі вечарам з сябрамі выходзім павячэраць.

Цэнтр Львова — суцэльнае свята. Усё зіхаціць. Радасныя пахі моцнай кавы, выпечкі, глінтвейну. Вулічныя музыкі, мастакі. За столікамі кавярань ды рэстарацый — ніводнага вольнага месца. Усплёскі смеху, ажыўленыя віном размовы... Так павінен выглядаць горад падчас вайны? — пытаюся я.

— Я заўжды кажу, — кажа выдавец Б.А. — У нас у краіне ёсць фронт. Значыць, мы — тыл. Без адданай працы ў тыле перамогі на фронце не будзе. А мы не перастроіліся на тылавы лад.

— А я не згодная! — пярэчыць пісьменніца Л.Т. — Па-першае, мы не ведаем, што і як робяць усе гэтыя людзі, што весяляцца вакол, для фронту. Можа, яны ў сто разоў больш сродкаў, чым трацяць тут, кожны дзень для войска перасылаюць. Я ведаю такія выпадкі. А па-другое, я думаю, гэта прынцыпова — жыць цяпер так, як раней. Львоў еўрапейскі быў і такі застаецца — і гэта вельмі важна. Мы радуемся колерам і пахам, мы радуемся сустрэчам з сябрамі... Сваім ладам жыцця мы наглядна паказваем нашу перавагу. Заўважце, што ад пачатку вайны рэакцыя на ўсе падзеі Украіны ды ўкраінцаў не была такой, якую чакалі рашысты. І у гэтым наша сіла. Ну, каму было б лепш, каб горад быў змрочным і бясколерным, запакаваным у маскіровачны халат? Ці было б правільна, каб форум сёлета не праводзілі? Катэгарычна — не.

### Я не хачу пра гэта чуць

У гэтай паездцы ўсё аказалася не так, як уяўлялася. Напрыклад, чамусьці мне падавалася, што плацкартны вагон, у які я набыла зваротныя квіткі, будзе пусты. Ну хто зараз будзе ехаць у Мінск са Львова?

Вагон быў цалкам запоўнены ўкраінцамі, якія ехалі ў Беларусь на працу. Торбы з салам, замарожанымі качкамі і свежымі памідорамі занялі свае паліцы. З перона махаюць рукамі татам і дочкам. «Ну што Вы, мамо, якая яшчэ адна торба? Дзе я яшчэ торбу падзену, і так скольки Вы мне далі з сабой. Усё ў мяне добра будзе, мамо. Не плачце, мамо!» — кажа хлопец маці.

— Чаго ж, вы, хлопцы, едзеце са сваёй Украіны так надоўга? — укладзістая, прыязная суседка, медсястра, львавянка, якая ўжо 28 год жыве ў Мінску, звяртаецца да двух вясёлых хлопцаў у нашым купэ.

— Мы фасаднікі. Апрацоўваем фасады. Гэта небяспечная праца, але зарабляем мільёнаў 15 на беларускія грошы. Каб хаця палову таго зарабляць маглі ў Львове, ясна, што нікуды не ездзілі б.

Людзі сядаюць вячэраць. На століках з'яўляюцца кантэйнеры з запечанымі куркамі, салатамі. Гарэлка тут. Але ніхто не напіваецца, вячэраюць, як звыклі людзі, што многа і цяжка працуюць — па 100 грам для апетыту... Не чуваць ні мату, ні сварак. Увогуле, усе гавораць па-ўкраінску і ўсе — выключна пра працу.

— А я працую на швейным прадпрыемстве. У мінулым месяцы дамоў завезла 650 даляраў, — з прыкметным гонарам кажа маладая жанчына насупраць. Яна адмовілася пераходзіць з вырабаткі на зарплату, бо палічыла, што так зарабляе больш.

За акном вагона — суцэльная цемра.

— Ноч якая цёмная, — заўважаю я.

— Дык гэта ў нас у вёсках вакол Львова сталі электрычнасць адключаць, — тлумачыць мне адзін з хлопцаў. — Тры гадзіны з раніцы і восем гадзін ноччу.

Успамінаюцца мне фестывальныя агні Львова...

Размова пераходзіць і на АТА.

Адзін са спадарожнікаў мае двух малых дзяцей, то мабілізацыя яму не пагражае. А вось іншы хаваецца ад яе.

— Прыносілі позву, і ноччу прыносілі, і хату абшуквалі. Мама кажуць: няма яго! Куды мне ў армію ісці, а маму, сястру хто будзе забяспечваць? Яны ж жабраваць тады пойдуць...

— А ў мяне сябар пайшоў добраахвотнікам. Кажа, у Луганску 30 адсоткаў падтрымлівае нас, 30 — Расію, а астатнім усё роўна.

— А ў мяне брата ранілі там. Рэабілітацыя — за свой кошт...

— А ў мяне знаёмы быў там паранены, хрыбет пашкоджаны, прывезлі ў Львоў у шпіталь, то не хацелі апераваць, пакуль 5 тысяч даляраў бацькі не заплацяць. Тры дні крыкам бедны крычаў, ніхто не падыходзіў. Пяць тысяч каштуе там тая пласцінка для хрыбта, купляйце, інакш апераваць не будзем... То сястра хлопца дайшла неяк аж да Садовага (мэр Львова — **НБ**), той умяшаўся, тады адразу прааперавалі. Галоўурач так крычаў на сястру, так крычаў... А яна кажа: галоўнае, брата выратавала, а хай крычыць...

...Позна ноччу, усе спяць, прайшлі мяжу. За пярэгарадкай чую прыцішаную размову: два мужчыны год па сорак пяць.

— Я павінен зараз быць там. Я ж начальнік мінамётнага разліку. Я ж маю досвед.

— Я не хачу пра гэта чуць.

— Не, ты паслухай. Я начальнік мінамётнага разліку. Я восем разоў жыццём рызыкаваў. Ты ведаеш, што такое аборт мінамёта?

— Не.

— Гэта калі міна ў ствале захрасае. Тады вымаеш яе, вочы заплюшчыш, і выймаеш. Восем разоў так было. Я ж досвед маю. Я павінен зараз быць там.

— Я не хачу пра гэта чуць.

...Гэтыя людзі з выразнымі тварамі, з моцнымі рукамі, што гавораць без мацюкоў і працуюць без стомы — рэальнае багацце Украіны. Так, цяпер яны маюць сумневы ў сваёй дзяржаве. Чаму яны маюць сумневы, калі яна не абараняе іх? Вось менавіта іх і пасольству ўкраінскаму цяпер варта падтрымліваць, і ўкраінскай дыяспары. Яны вязуць на Радзіму рэальныя грошы, якія так там цяпер патрэбныя.

### Як набыць бронекамізэлькі?

У грамадзян Украіны сапраўды шмат пытанняў да сваёй дзяржавы.

Львоўскі журналіст С.Л. расказвае як пра будзённае:

— Адправілі пляменніка ў войска. Бронекамізэльку яму купілі, а вось каску — пакуль не. Але купім. У нас у войска трэба ісці са сваім.

— Як так? Як гэта можа быць: ісці ў войска са сваёй каскай?! — не магу ўцяміць я.

— А ты думаеш, Путлер вось цяпер вырашыў напасці? Не, план па развале краіны і арміі дзейнічаў даўно, — пацiскае ён плячыма. — Але нічога, каску таксама купім. І пераможам рашыстаў.

— Салдатам трэба бронекамізэлькі, — расказвае выкладчыца Львоўскага ўніверсітэта Н.С. — Мы сабралі грошы. Купляць іх трэба ў Польшчы — Украіна іх не вырабляе. Але па заканадаўстве завозіць іх можна не больш, чым па адной на адну асобу. Сабралася нас чалавек сто, паехалі. Туды на аўтобусе, назад — на бусіках. Апранула яе на сябе. А яна цяжкая, 20 кіляў вагой. А я паўтара метра ў кепцы...

— Дэбільная дзяржава! — абураецца вядомы беларускі журналіст С.Ш. — Як можна забараняць увоз бронекамізэлек, калі ідзе вайна? Хіба можа такая дзяржава выйграць вайну?

— Можа. Бо ў гэтай дзяржавы вось такія грамадзяне. Ці знойдзецца ў нас у Беларусі, калі што, сто чалавек, якія выправяцца ў Польшчу па бронекамізэлькі? — кажу я.

### У сухім астатку

А Путлер хай не спадзяецца дачакацца смерці Украіны. Рускія разведчыкі, якія працуюць ва Украіне, хай так і напішуць свайму начальству: дулю!

Як прыпячатала маладая краўчыха, што не пагадзілася пераходзіць з вырабаткі на зарплату: «Украінская свіння па-расейску рыць не будзе!»



**Наталка Бабіна —**

пісьменніца, перакладчыца, нарадзілася ў Заказанцы пад Брэстам, жыве ў Ждановічах пад Мінскам. Аўтарка рамана «Рыбін горад», укладальніца перавыдання «Кухаркі літоўскай» Вінцэнты Завадскай.

# Святлана Алексіевіч: Ёсць прадчуванне вялікай вайны

**Вядомая пісьменніца** сустрэлася з мінскімі чытачамі.

16 верасня ў творчай прасторы ЦЭХ у Мінску прайшла сустрэча з пісьменніцай Святланай Алексіевіч. Мерапрыемства было арганізаванае пры дапамозе пасольства Германіі. А гаворка найперш пайшла пра Украіну, вядома.



БЕЛАПАН

### Учора я паўгадзіны плакала

«Учора я увайшла ў Інтэрнэт і паўгадзіны плакала. Пабачыла, як па ўкраінскіх вёсках ідзе калона, вязе забітых салдат. Паўсюль людзі сустракаюць яе, стоячы на каленях. Гэтыя грузныя савецкія людзі: вялікія мужыкі, па якіх відаць, што яны п'юць, жанчыны, па якіх відаць, што яны цягнуць усё на сабе, дзеці... І я глядзела на гэта і думала, што не, чырвоны чалавек яшчэ не сышоў. Развітанне з ім будзе вельмі доўгім».

### Прадчуванне вайны

«Адзін італьянскі рэстаратар вывесіў аб'яву «Рускіх не абслугоўваем». Гэта добрая метафара. Сёння свет зноў пачынае баяцца: што там, у гэтай яме, у гэтай бездані, якая мае ядзерную зброю, шалёныя геапалітычныя ідэі і не валодае паняццямі аб міжнародным праве?

Увогуле, мне здаецца, будзе вялікая вайна. Імперыя яшчэ не сышла. І ў мяне вельмі трывожнае адчуванне, што без крыві яна не сыдзе. Тое, што вайна будзе ва Украіне, — гэта несумненна. І тое перамір'е, пра якое дамовіліся ў Мінску, — яно ненадоўга».

### Чалавек Спрабуючы

«Мы яшчэ не сучаснае грамадства. Зараз ідзе такі вульгарны перыяд, калі сфармаваўся толькі Чалавек Спрабуючы. Ён спрабуе шмат рэчаў, якіх не меў і не ведаў. Ездзіць па свеце, смакуе новыя краіны, уражанні, стравы. Каб гэта перажыць і прыйсці да пэўных культурных каштоўнасцяў, патрэбен час. Але сёння нашыя дамы мне падабаюцца больш, чым псіхалогія нашых людзей».

### Каханне даецца чалавеку, каб не так страшна было паміраць

«Цяпер я пішу кнігу пра каханне. Каханне — гэта таямніца. Прычым няма розніцы, шчаслівае каханне ці няшчаснае. Каханне даецца чалавеку, каб не так страшна было паміраць. Мы народжаны не для таго, каб згарэць пад Данецкам у танку. Усё ж для чагосьці іншага».

### Ва Украіне сёння адбываецца нешта галоўнае

«Украіна сёння — прыклад для ўсіх нас. Іх жаданне развітацца з мінулым канчаткова — вартае павагі. Яны прачнуліся нібыта. Ва Украіне сёння адбываецца штосьці галоўнае для ўсіх нас, галоўны адказ на нейкія пытанні, на якія ў нас не хапала сіл, ні інтэлектуальных, ні народных. А яны гэта зрабілі, хаця ім дорага гэта абышлося, яны гэта зрабілі».

### Чалавека ў сабе трэба вартаваць

«З майго досведу я магу сказаць, што самае складанае — застацца чалавекам. Не пусціць у сябе звера. Як выдатна сказаў расійскі святар Кураеў: калі дазволіць чалавеку пабыць свіннёй, то шмат хто захоча ёю пабыць. Чалавека ў сабе трэба вартаваць. Можа, увогуле, гэта і ёсць нашая галоўная справа. Бо сaслізнуць у нейкі іншы стан — надзвычай проста».

**Уладзіслаў Швядовіч**

---

**Навука**

# Чаму бывае дэпрэсія ў катоў

Вызначаныя лаўрэаты **Шнобелеўскай прэміі — 2014.**

Штогод у сярэдзіне кастрычніка фонд Нобеля пачынае называць лаўрэатаў самай прэстыжнай навуковай прэміі свету. Яе ўручэнню заўсёды папярэднічае вызначэнне пераможцаў Шнобелеўскай (Іг-Нобелеўскай) прэміі — аўтараў самых экстравагантных ідэй і абсурдных даследаванняў.

Летась адным з лаўрэатаў быў названы кіраўнік Беларусі Аляксандр Лукашэнка. Сусветная супольнасць ацаніла «забарону публічных апладысментаў, а таксама тое, што беларуская міліцыя арыштавала за апладысменты аднарукага чалавека».

Сёлета «палітычную» прэмію атрымалі еўрапейскія чыноўнікі, якія рэкамендавалі павысіць памер даходаў нацыянальных эканомік усіх краін Еўрасаюза, у тым ліку за кошт паступленняў ад прастытуцыі, незаконнага абароту наркотыкаў і нелегальных фінансавых аперацый.

Хто ж астатнія пераможцы?

У намінацыі «Біялогія» першынствавалі 12 навукоўцаў з Чэхіі, Германіі і Замбіі. Яны вызначылі, што сабакі, калі спраўляюць натуральную патрэбу, стаяць уздоўж геамагнітных сілавых ліній па кірунку з поўначы на поўдзень.

Іншыя навукоўцы зацікавіліся ўплывам катоў на душэўны стан людзей. Высветлілася, што каты часцей кусаюць гаспадароў, калі тыя знаходзяцца ў стане дэпрэсіі. Бо дэпрэсія гаспадара выклікае дэпрэсію ў ката.

Нейрабіёлагі апісалі, што адбываецца ў мозгу чалавека, які ўбачыў твар Ісуса на падгарэлым тосце. А псіхолагі вызначылі, што людзі, якія прачынаюцца позна, больш схільныя да маніпуляцый, чым тыя, хто ўстае рана.

Іспанцы змаглі атрымаць фермент для вытворчасці сыравэнджанай каўбасы з дзіцячых экскрэментаў, а індыйскія і амерыканскія медыкі параілі пры крывацёку з носа затыкаць яго свінной выразкай.

А вось навукоўцы з Германіі і Нарвегіі займаліся вывучэннем таго, як паўночныя алені рэагуюць на людзей, пераапранутых у касцюмы белых мядзведзяў.

**Ягор Марціновіч**



**Новы «Дзеяслоў»**

У нумары «Дзеяслова» №63 — п'еса Ніла Гілевіча «Прывітанне ад Агрыпіны», вершы Барадуліна, Хадановіча, Івашчанкі, рэцэнзія Алеся Бяляцкага на кніжку Паліны Качатковай. Пытайцеся незалежны літаратурны часопіс «Дзеяслоў» у кнігарнях і ў інтэрнэце.


Ambasada RP w Mińsku, przy współpracy z Uniwersytetem Śląskim w Katowicach ogłasza

**III Ogólnobiałoruski Sprawdzian z Języka Polskiego**

Do udziału w Sprawdzianie zachęcamy wszystkich władających językiem polskim, którzy wykażą się bardzo dobrą znajomością ortografii i interpunkcji języka polskiego, jak również mających ochotę sprawdzić swoje umiejętności w tym zakresie.

Sprawdzian odbędzie się w siedzibie Państwowego Uniwersytetu Lingwistycznego w Mińsku, **przy ul. Zacharowa 21, sala nr A 417 (korpus A), w dniu 12 października 2014 r o godzinie 12.00.**




Każdy z uczestników powinien dokonać rejestracji za pomocą elektronicznego formularza rejestracyjnego dostępnego na stronie internetowej Ambasady RP w Mińsku, którego wzór stanowi Załącznik nr 1 do Regulaminu Sprawdzianu, **do dnia 10 października 2014 roku**, pod adresem **http://www.minsk.msz.gov.pl/pl**. Wypełniony formularz należy odesłać na adres: ambasada.**minsk@msz.gov.pl**, w temacie wpisując słowo: **«SPRAWDZIAN»**.

Autorzy najlepszych prac otrzymają cenne nagrody, zaś oczekiwanie na rozstrzygnięcie Sprawdzianu umilą występy artystyczne i inne atrakcje.

ПАСОЛЬСТВА РЭСПУБЛІКІ ПОЛЬШЧА Ў РЭСПУБЛІЦЫ БЕЛАРУСЬ. УНП 101184926


**In memoriam**

# Мая Клімковіч

22 верасня не стала Маі Міхайлаўны Клімковіч. Ёй было 87 гадоў. Сціплая, спагадлівая жанчына, яна да 85 гадоў працавала карэктарам беларускамоўных выданняў. Праўдзівы прафесіянал, сапраўдная легенда рэдакцый.

Яна маці пісьменніка Максіма Клімковіча і дачка Міхася Клімковіча, першага Старшыні СП БССР. Добра памятала Янку Купалу, Якуба Коласа, Кузьму Чорнага, Янку Маўра.

Калі ў 2002-м вырашалася пытанне беларускага гімна, спадарыня Мая не падтрымала варыянт бээсэсэраўскага варыянта, хоць словы да яго пісаў яе бацька. «То ўжо гістарычная з'ява. Не хочацца сёння такіх словаў, хочацца новых», — казала яна тады карэспандэнту «НН». З усіх беларускіх гімнаў ёй найбольш даспадобы быў «Мы выйдзем шчыльнымі радамі» Макара Краўцова.



Пахаваюць Маю Клімковіч на Вайсковых могілках, каля бацькі.

## ФУТБОЛ

### Ліга чэмпіёнаў на «Барысаў-Арэне»

**30 верасня** барысаўскі «БАТЭ» гуляе з «Атлетыкам» (Більбаа, Іспанія). Пачатак у 21.45.

## ХАКЕЙ

### «Дынама» (Мінск) на «Мінск-Арэне»

**3 кастрычніка** ў чарговым матчы Кантынентальнай хакейнай лігі «Дынама» прымае фінскі «Екерыт». Пачатак а 19.

## КАНЦЭРТЫ

### Neuro Dubel — 25

**4 кастрычніка ў клубе Re:Public (Прытыцкага, 62)** святкуе 25-годдзе легендарны гурт Neuro Dubel. Пачатак а 19.

### Андрэй Макарэвіч і «Машына часу» ў Мінску

**3 кастрычніка ў Палацы спорту (Пераможцаў, 4)** сваё 45-годдзе канцэртам адзначыць гурт «Машына часу». Пачатак а 19.

### Разбітае сэрца пацана

**2 кастрычніка ў паб-клубе «Графіці» (зав. Каліна, 16)** грае гурт «Разбітае сэрца пацана». Пачатак а 19.




28 верасня на тэрыторыі Рэспубліканскага цэнтра алімпійскай падрыхтоўкі па лёгкай атлетыцы (Мінск, вул. Каліноўскага, 111) пройдзе нацыянальны спартовы фестываль «Мова Cup». Ідэя фестывалю належыць групе зорных беларускіх атлетаў з вядомага дабрачыннага праекта «Мары збываюцца». Арганізатары — **Аляксандра Герасіменя** і яе сябры, сярод якіх футбаліст БАТЭ **Віталь Радзівоноў (на фота справа)**. Усім ахвотным будзе прапанавана паспрабаваць свае сілы ў розных відах спорту — ад міні-футбола і бадмінтона да плавання і шахмат.

## ТЭАТР

### 25 верасня

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Вечар
**Опера** — Мадам Батэрфляй
**Юнага гледача** — Белаcнежка і сем гномаў

### 26 верасня

**Беларускай драматургіі** — Кантракт
**Купалаўскі** — Людзі на балоце
**Лялек** — Тарцюф
**Балет** — Вітаўт
**Юнага гледача** — Шытая лялька Рэгедзі Эн

### 27 верасня

**Беларускай драматургіі** — Шабаны
**Купалаўскі** — Юбілейны вечар Генадзя Гарбука
**Лялек** — Кот у ботах
**Юнага гледача** — Царэўна-жабка, Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 28 верасня

**Купалаўскі** — Паўлінка
**Лялек** — Малыі Карлсан, які жыве на даху
**Опера** — Сівая легенда
**Юнага гледача** — Прыгоды Бібігона

### 29 верасня

**Беларускай драматургіі** — Дажыць да прэм'еры
**Балет** — Дон Кіхот

### 30 верасня

**Беларускай драматургіі** — Бі-Лінгвы
**Купалаўскі** — Дон Жуан
**Опера** — Травіята
**Юнага гледача** — Крыху пяшчоты

### 1 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — А калі заўтра няма
**Балет** — Спартак

### 2 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Нямое каханне
**Купалаўскі** — Вячэра з прыдуркам
**Опера** — Іаланта

### 3 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Тры Жызэлі
**Купалаўскі** — Вечар
**Балет** — Жар-птушка, Шахеразада
**Юнага гледача** — Тэдзі

### 4 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Два чароўныя парасоны, Адамавы жарты
**Лялек** — Чырвоны Каптурок
**Балет** — Жар-птушка, Шахеразада
**Юнага гледача** — Тры парсючкі, Маленькі лорд Фаўнтлярой

### 5 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Гісторыя двух сабак, Ціхі шэпт сыходзячых крокаў
**Лялек** — Мыйдадзір

### 7 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Опера** — Рыгалета

### 8 кастрычніка

**Беларускай драматургіі** — Фінт-Круазэ
**Купалаўскі** — Пінская шляхта
**Балет** — Лебядзінае возера




11 кастрычніка ў Вільні (Teatro Arena, пачатак а 20) Лявон Вольскі прэзентуе альбом «Грамадазнаўства». Уваходныя білеты на канцэрт «Вільня. Воля. Вольскі» забяспечаныя бясплатнымі візамі. Літоўская амбасада прымае дакументы на візу да 2 кастрычніка, папярэдняя рэгістрацыя непатрэбная.

## ВЫСТАВЫ

### «Трансформа»

У Цэнтры сучасных мастацтваў (Някрасава, 3) адбудзецца адкрыццё арт-праекта «Трансформа». Аўтары праекта — маладыя беларускія мастакі Віктар Астэр, Пятро Кузьміч і Міраўлад Палачыч.

У аснове экспазіцыі арт-праекта — інсталяцыя, арт-аб'екты, скульптура, жывапіс.




**Да 3 кастрычніка** ў Мастацкім музеі (Леніна, 20) экспануюцца творы сучасных беларускіх мастакоў у межах арт-праекта Zabor.

### «Як намаляваць слова. Сучасная беларуская дзіцячая кніга»

**Выстава ілюстрацый Марты Герашчанкі** да кніг Вольгі Гапеевай «Сумны суп» і «Дзве авечкі» праходзіць у памяшканні Музея-майстэрні Заіра Азгура (Азгура, 8).

## КІНО

### Дурасць і мужнасць

Той, хто бяжыць у лабірынце
**Жанр:** фантастыка, трылер, дэтэктыў
**Рэжысёр:** Уэс Бол
**У ролях:** Дзілан О'Браен, Амл Амін, Кі Хонг Лі, Блэйк Купер, Томас Сэнгсар, Уіл Паўлтэр, Дэкстар Дардэн

Падлетак Томас трапляе ў месца, атачанае каменнымі сценамі лабірынта, дзе зачыненыя 60 іншых падлеткаў. Юнакі тры гады спрабуюць знайсці выйсце адтуль, але не могуць гэтага зрабіць, бо канструкцыя мяняецца кожны дзень. Да таго ж, лабірынт насяляюць жудасныя пачвары-грыверы, якія забіваюць кожнага, хто не схаваецца пасля заходу сонца. Томас — адзіны, хто наважваецца забіць грывера. Адзіныя, у каго атрымліваецца выжыць у лабірынце ноччу, каб раскрыць яго таямніцу.

Фільм зняты па матывах аднайменнай кнігі Джэймса Дэшнера, першай часткі трылогіі пра Томаса і падлеткаў, якія аказаліся ахвярамі чужой гульні. Фільм атрымаўся не менш захапляльны, чым кніга. Сюжэт трымае ў напружанні, яго дэталі раскрываюцца пакрысе. Тут намяшана ўсяго: постапакаліптычная катастрофа, смяротны вірус, жорсткі эксперымент, антыўтапічны свет, герметычны сюжэт. Паасобку — нічога новага, але разам складаецца добра стылізаваная, захапляльная стужка пра падлеткаў у незвычайнай сітуацыі, якія вымушаныя дзейнічаць разам, каб разам выжыць.

**Настасся Уласава**



# Як я долеўся ў лесе са старою

Апавяданне. Піша **Віктар Шукеловіч**.

Нясцерпна хацелася піць. У роце і кішках пякло, як у Сахары. Перад выхадам у грыбы я дарма наеўся селядцоў з цыбуляй. У галаву не прыйшло ўзяць з сабою ў лес пляшачку піцця. А цяпер мусіў пакутаваць — нутро сушыла нязносна, хоць вакол у гушчары панавала вільготная прахалода. Натрапіўшы на некалькі кустоў пераспелых касцяніцаў, я прагна пазрываў ягады. Кінуўшы ў рот вадзяністыя рубінавыя кулькі, я прыціснуў іх языком да паднябення, каб асвяжыцца кіслінкай соку. Гэта дапамагло на момант.

Увесь лес быў у грыбах. Я толькі прыйшоў, а ўжо нарэзаў сваім невялікім вострым ножыкам паўкаша цвёрдых баравікоў, зграбных падбярозавікаў і маладых лісічак. Сыраежак, свінушак з кабылкамі ды нават рыжыкаў не браў — яны б толькі займалі месца, якое можна запоўніць больш каштоўнымі дарамі лесу. Ад грыбнога азарту я крыху забыў пра смагу, але праз хвілю мне зноў пачало смылець у чэраве. Правёў языком па шорсткіх губах. Нейкая трывога. Пастаяў, прыслухаўся — ціха. Дахаты вяртацца — задалёка. Згадаў, што тут сярод лесу было некалькі прыдзічэлых яблыняў, што засталіся па лясных хутарах. Два-тры сакавітыя яблычкі — вось што мне было трэба, каб спатоліць смагу.

Яблыні раслі на вялікай прагаліне, куды вяла лясная дарога. Перад вайною тут былі хаты, ад якіх цяпер засталіся толькі падмуркі, кусты бэзу ды некалькі садовых дрэваў. Струхлелы крыж, каля якога, пэўна, маліліся гаспадары, хаваўся ў густым ляшчынніку. Вакол ляжалі кучы накіданага невядома кім сухога галля. Я падышоў бліжэй да яблыняў, паставіў на зямлю кош, кінуў на грыбы мой бліскучы ножык, сарваў два буйныя яблыкі і застыў — у ляшчынніку нехта шоргаўся. Можа, дзік ці лось. Міжвольна ўзгадаліся паказкі пра старых і дзяцей, якія знікалі ў лесе, ды затахкала сэрца.

— Хто там? — гукнуў.

Падумаў, што чалавек азавецца, а звер, можа, спалохаецца.

— Добры дзень! — з кустоў высунула галаву нейкая бабуля. — Свае, свае, не бойцеся.

Гэта не была грыбніца. Кабета была ў элегантным плашчы і ў дарагіх чаравіках. Твар — маршчыністы, але белы, далікатны, на галаве — дамскі капялюш, а не хустка. Праз плячо — сумачка, а замест кійка — доўгі парасон. Бабуля не была з вакольных вёсак.

— Ведаеце, я некалі тут жыла. Прыйшла адведаць, — жанчына гаварыла па-беларуску, але з акцэнтам. — Я сама з Польшчы.

— Ага, — я разгубіўся ад нечаканага спаткання.

— Згаладнелі? — запыталася яна, пабачыўшы яблыкі ў маіх руках.

— Не, сасмяг, — пакруціў галавою я.

— Калі хочаце, то можаце са мною перакусіць, — запрашальным тонам прамовіла жанчына і дастала з торбачкі папяровую сурвэтку ды разаслала яе на рэштках падмурка. На засланае яна паклала некалькі папяровых скрутачкаў ды прысела побач на падмуроўцы. — Сядайце, частуйцеся. Вы адкуль? — запытала.

Мне было няёмка. І хоць я не быў моцна галодны, але прысеў на падмурку з другога боку ад сурвэткі. Скрутачкі пахлі прынадна.

— З Гудзянятаў, — адказаў. — Пару кіламетраў адсюль.

— Бярыце, там лусцені з салямі, — падахвоціла бабуля. Я нясмела ўзяў скрутачак, разгарнуў — там быў бутэрброд з двух скібаў белага хлеба ды кавалкам чырвонага памідора і скрылёчкамі замежнай кілбасы між імі.

— Я жыву ў Гданьску. Сюды прыехала з групай на экскурсію. Сёння яны паехалі замкі глядзець у Крэве і Гальшанах. А я на аўтастанцыю ў Ашмяне пайшла і аўтобусам у Азяраны прыехала ў касцёл і на магілы родных. Сюды дык і не меркавала ісці, але, як выйшла з касцёла, то ногі самі панеслі.

— І не баяліся гэтак далёка адна ісці?

— Не баялася. Я ж сама адгэтуль родам. Ведаю, што людзі тут добрыя. Вы ж мне таксама крыўды ніякай не зробіце? — нібы жартаўліва сказала яна, пакасіўшыся аднак на мой грыбны нож.

— Не, ну што вы, — мне зрабілася сорамна, што мяне маглі западозрыць у благім. — Калі вы тут жылі? — я знарок змяніў тэму і ўдыхнуў пах дарагой парфумы, які ішоў ад бабулі.

— Я тут нарадзілася перад вайною, калі тут Польшча яшчэ была. Потым саветы прыйшлі і пачалі калхозы рабіць, дык наша сям'я ў Польшчу ў рэпатрыяцыю выехала, — распавядала пажылая кабета мяккім і прыемным голасам. — Бацька мой быў леснікам у графа Чапскага, дык дзе яму было жыць, як не ў лесе? Троху далей была сядзіба дзядзькі — бацькавага брата. Ён троху дапамагаў нам, але і сваю зямлю абрабляў у Залессі.

## — Што, пачвара, ручка да ножыка пацягнулася? Адпомсціць мне захацелася?

У дзядзькі былі два сыны, дык яму спарней было на зямлі працаваць. А мае бацькі трох дзяўчынаў гадавалі. Я была наймаладзейшая, распешчаная, але і шмат працавала, не ленавалася. Як жніво было, то я, будучы трынаццаткаю, сярпом роўна махала са сталымі жанкамі. Мяне ўсе любілі. Сыны дзядзькі дык надта ж мяне шанавалі. Я языкатая была і вясёлая. Яны за мае жарты да мяне і гарнуліся.

Старэйшы, Болюсь, дык браў мяне на рукі і гойдаў, падкідаў уверх, бо надта дужы быў, а я толькі рагатала. Часам злаўлю яго за вушы і кажу, што адпушчу, калі ён мяне на вечарынку з сабою возьме. А ён прасіўся так жалліва: «Пусці, Марыля, пусці, любая, вазьму я цябе з сабою». І заўсёды слова трымаў. Прыйдзе вечарком пад акно, калі бацькі лягуць спаць, і чакае мяне. Я праз акно да яго вылезу і разам пойдзем у Гудзяняты ці ў Куцавічы на патанцулькі. Я смаркачка была, але надта любіла танцаваць. А Болюсь таксама танцаваў, як паніч які, — такі хвацкі хлопец быў. Дзеўкі на яго глядзелі ды аблізваліся. Як у касцёле ён быў з бацькамі, то дзяўчаты толькі на яго вочы лупілі ды шапталіся, зусім ксяндза не слухалі, аж брыдка іх бацькам было. Але Болюсь на вечарынках мяне пільнаваўся — каб хто мяне не скрыўдзіў. Танцуе, а сам цікуе, дзе я і з якім хлопцам у польцы кручуся. Ажно аднаго разу з Болюсем нешта зрабілася: я спецыяльна з хаты выйшла, якую на танцы наймалі, і доўга на вуліцы стаяла. Думала: папалохаю крыху брата стрыечнага, зараз пойдзе мяне шукаць, дзе я падзелася. А ён усё не ішоў, аж мне знудзілася пад хатаю за вуглом стаяць. Прыходжу і гляджу: Болюсь з Анэляй аднэй такою размаўляе і вачэй з яе не зводзіць.

Анэля тая была памаўза ды байстручка. Маці яе ў пана нейкага ў Вільні служыла і вярнулася з жыватом дахаты ад яго. Жыла яна надта бедна. Зямлі троху мелі, але дзе там адныя бабы будуць абрабляць, дык аддавалі арандатарам. Анэля да работы была як агонь да мокрага: як пачне жаць, то стаіць у полі, раскірэўчыўшыся, штохвілю спіну выпростоўвае; як бульбу капаць, то каша яна не паднясе, бо зацяжка; як каровы пасвіць, то яна не падляціць за быдлам, бо задыхаецца. І такая худая яна была, белая, танцаваць не ўмела, у лахманы ўбіралася, бо грошай на добрую капоту не было. Але ўпала Болюсю ў вока, каб яе качкі. Цяпер ён толькі дзеля яе на вечарынкі хадзіў. Мяне рэдка калі браў, толькі часам надта неахвотна згаджаўся, каб я з ім пайшла.

А Анэля тая вялікая кніжніца была. Неяк, начытаўшыся, дала Болюсю кнігу пра князёў даўнейшых, пра Беларусь. З гэтага часу і Болюсь загарэўся тою Беларуссю: як з моладдзю якою спаткаецца, то ўсё ім пра князёў расказвае, што па-беларуску гаварылі. А гэта яшчэ за польскім часам было. Пачала за Болюсем паліцыя хадзіць. Дзе ні прыйдзе на танцы, зараз за ім паліцыянт прыпаўзе. Маладыя надта не хацелі, каб іх так пільнавалі, дык і сказалі Болюсю, каб болей не прыходзіў і паліцыі ззаду не прыводзіў. Дык той зачасціў у поле ці ў лес з Анэлькаю хадзіць.

Я раз падгледзела: ляжаць яны ў лузе, бадылямі адно аднаго казычуць, нешта гамоняць, смяюцца. Якая ж мяне злосць узяла... Пабегла дахаты ды ўсё дзядзьку расказала. Той, бедачына, расхрыстаны ляцеў на луг з бізуном, а я сама за дрэвамі схавалася. Прыляцеў і давай іх пугаю абкладваць: «А каб вы, сякія-такія, спрахлі, каб вас халера, каб вас ваўкалак узяў. Байструкоў мне паробіце». А да Анэлькі ён надта злосна крычаў: «Маладая шлюндра, роўна як матка, ходзіць ды толькі хлопцаў зводзіць». Не хацеў дзядзька, каб сын жабрачку без пасагу ды гультайку за жонкі браў. А Болюсь устаў ды кулаком бацьку ў морду, аж таму юшка з носу палілася. Я аж прысела за дрэвамі. А дзядзька раз'юшыўся, узяў ды назад сыну ў галаву кулаком пальнуў, — тут бабуля прыпыніла гавэнду.

— І што далей было? Ці Анэля іх не раздымала? — хацелася мне пачуць працяг.

— Анэля тая стаяла, разявіўшыся, — у голасе госці з Польшчы пачуліся вострыя ноткі. — Ды і я разгубілася. Малая была, дурная, трэба было грудзямі паміж імі кінуцца, а я забаялася. Болюсь бацьку яшчэ мацней аддаў у грудзі, што аж той захістаўся. А потым падляцеў ды з усёй сілы піргнуў старога на зямлю. Той заблытаўся нагамі ў пугавінні ды ўпаў... Ды галавою на камянюку... Тут і я падбегла. Страшна было тое: цішыня, конікі цвыркочуць, а Болюсь стаіць з Анэлькаю збялеўшы, а паўсюль — кроў. Запомнілася, што надта кроў цякла з дзядзькавай галавы. Аж гэна не кроў, пэўна, была, а мазгі вылезлі, так моцна дзядзька галавою ўдарыўся. «Уцякай», — крыкнула Анэлька, як сабаку нейкаму. Болюсь, мусіць, сам не разумеючы, што робіць, пабег у лес. Я ў мястэчка паляцела ў пастарунак і да лекара. Анэлька ўцякла і ў хаце ў склеп схавалася, але паліцыя яе адтуль выцягнула. Але і адпусцілі неўзабаве. Я ўсё расказала, як было на тым лузе. Болюся потым знайшлі ў лесе ў пятлі — моцна ў галаву ўзяў, што бацьку забіў. Удава дзядзькі з малодшым сынам гаравалі. Цётка хадзіла чорная, высахла ўся, а пазней, як бульбу капалі, мяшкі з поля цягала, падарвался і за пару дзён крывёю сцякла да смерці. Доктара загадала не наймаць, бо грошай шкадавала, а шаптуха з Азяранаў не дала рады.

— А што з Анэлькай было? — запытаўся я.

— А тое ж, што і з ейнай маткай. Байстручка нарадзіла. Пэўна, ад Болюся ці яшчэ ад каго, але гэта навясну ўжо. Саветы ўжо нас былі заняўшы. Але з галавою нешта ў яе не так было, дык людзі скаліся грашыма і аддалі хлопчыка гадавацца да старой арганісціхі. А Анэлька хадзіла босая і з валасамі растрапанымі па лясах, аж пакуль у вайну не падарвалася на міне. Хлопчыку арганісціха дала прозвішча Юрэвіч, бо якраз ён радзіўся вясною на Юр'я. Канца вайны і мы неяк дачакалі ды выехалі ў рэпатрыяцыю, бо бацька ў дакументах палякам пісаўся. Я там універсітэт скончыла, працавала на радыё. А як ваша прозвішча? — нечакана запыталася мая суразмоўніца.

— Юрэвіч, — сказаў я, не тоячы. — Той байстручок, пэўна, — мой бацька.

— Ах, вось як бывае, — спахапілася бабуля. — Хто ж ведаў, што гэтак можам спаткацца. І што бацька цяпер парабляе?

— На пенсіі ўжо, — неяк з сумам адказаў я. — Пасля вайны яго ад арганісціхі ў дом сіротаў забралі.

— Ой, Божа ж мой, Божа, што на свеце робіцца, гара з гарою не сыдуцца, а чалавек з чалавекам знойдуцца, — забожкала бабуля.

У мяне абудзілася нейкая гідлівасць. Я не мог глядзець на старую, не крывячыся. Мне захацелася бегчы, уцякаць з гэтага месца. Ад паху парфумаў старой рабілася млосна. Машынальна мая рука пацягнулася да каша — забраць сваё і знікнуць. Бабуля ж, як спружына, падскочыла з месца. У руках у яе быў газавы балончык:

— Што, пачвара, ручка да ножыка пацягнулася? Адпомсціць мне захацелася?

Я адвярнуў галаву, але старая псікнула мне ў вочы газам. Здавалася, вочы лопнуць, а скура аблезе з твару — было вельмі балюча. Я нічога не бачыў, але, дзякуючы падказцы старой, намацаў у кашы нож і пачаў усляпую тыркаць вакол сябе, стараючыся адпужаць вар'ятку. Тая крычала, цяжка дыхаючы:

— Што, думаеш, старая і дурная адна па лесе ходзіць? Ты мяне не абдурыш!... Не на тую нарваўся, боўдзіла!

Нешта цяжкое моцна ўдарыла мяне па руцэ, што я аж скавытнуў ад болю ды выпусціў нож. Старая, відаць, узброілася нейкім суком, што знайшла непадалёк. Я ўсцяж нічога не бачыў.

— Вядзьмак, Анэльчына семя, — раўла ў мяне пад вухам бабуля. — Гэта вы начаравалі, што Болюсь памёр, а я не мела дзяцей. Каб вы здохлі ўсе!

Я чуў подых бабулі справа. А раптам яна ўпорыць мяне маім жа ножыкам у жывот ці шыю. Бадай яе немач. На якое ліха яе сюды прыпёрла?

— Пайшла-а-а ты-ы-ы!.. — зароў я, размахваючы хаатычна перад сабой кулакамі. — Пайшла ты, старая карова!..

Бабуля з немарасці пырснула газам мне ў твар яшчэ раз. Боль быў настолькі востры, што я ажно злёг, усунуўшыся рукамі глыбока ў прахалоду моху, каб было лягчэй.

— Ляжы, вядзьмак, гній тут, — вызверылася яна. Праз трэск сучкоў я зразумеў, што бабуля пайшла. У мяне на твары, здавалася, пачалі рабіцца пухіры. Я паклаў галаву на мох і страціў прытомнасць.

* * *

— Антонавіч, Антонавіч! — нехта штурхаў мяне ў бок. — Падымайцеся, бо акалееце.

Я ледзь прадзёр вочы. У галаве шумела, твар пякло, цела не слухалася, як знятае з крыжа. Рукі чамусьці халадзіла шкло. Глянуў — у моху ляжала некалькі пустых бутэлек. Прыпадняў галаву — перада мною згіналася бабка Стася з Гудзянятаў. Яна была з кійком, а каля лыткі ў яе стаяў кош з грыбамі.

— Ну як гэта вы так? — пыталася бабка. — І вучаны ж чалавек, у школе працуеце, а гэтак п'яце ў лесе пакрыёма, — дакарала яна мяне, відаць, за пустыя бутэлькі. Іх маглі тут кінуць нейкія ранейшыя грыбнікі.

— Я не піў, — прамыкаў я.

Галаву рвалі ўрыўкі апошніх падзеяў.

— Ага, не пілі, а толькі з хлебам елі, — паблажліва сказала бабка. — А бутэлькі з-пад самагонкі самі выпіліся і выкінуліся. Пэўна, нічым яшчэ і не закусвалі... І на голай зямлі гэта ж лёгшы, — енчыла мая аднавяскоўка.

Я даткнуўся рукою да твару — пякло. Згадаў, як у твар мне пырскалі з балончыка.

— Божа ж мой, тварам у мурашніку ляжаўшы, — пляснула ў ладкі бабка, схіліўшыся крыху, каб прыпадняць мяне пад руку. — Як жа гэта так апусціцца? — бедавала яна .— Гэта ж усю скуру мурашы пакусалі, а праз вушы дык і ў мазгі маглі ўлезці. Гэта, памятаю, Базылёвай Марысьцы павук ноччу ў вуха залез, дык «хуткую» выклікалі. Добра, што тут чорныя мурашкі, бо каб былі рудыя, дык па латачках трэба было б скуру збіраць, — сакатала старэнькая.

Бабка Стася дапамагла мне падняцца. Я ўстаў, абаперся рукою на сасновы камель.

— Што, труднуеце цяпер? Ну і чаго было гэтак напівацца і па лесе цёгацца, як лазэнгу якому? Хату ж сваю маеце, дык і пілі б паціхеньку дома. І што вас, маладых, гняце ўсё? Што вы сабе спакою ніяк не знойдзеце, — казала старая, узяўшы мяне пад руку і ведучы праз лес. — Што ж гэта вас душыць і мучыць, не адпускае? Чарната нейкая ў вас залезла... Вам бы зоркі з неба зрываць, а пошасць за вамі ззаду давязалася.

— А дзе мой кош з грыбамі? — запытаўся я слабкім голасам.

— Які кош? Ніякіх кашоў не было каля вас, адно пляшкі. Няўжо вы грыбы збіралі? Я думала, што вы не любіце гэтак час марнаваць. Вы ж па кніжках усё, а не па грыбох...

*Жупраны*

# Ёсць яшчэ хлопцы!

Нататкі рэзервіста. Піша **Аляксандр Пятроўскі.**

**Сканчэнне. Пачатак у «НН» № 31, 32, 34, 35.**


СЯРГЕЙ ГУДЗІЛІН

**Панядзелак, дзень 1-ы.**

Першае, што кінулася ў вочы, калі прыехаў на апошнія зборы, — усё тая ж яміна пасярод плаца. Няўжо яна зеўрала ад мінулых збораў? Прайшло 20 месяцаў!

* * *

У абед нас не кармілі: маўляў, прыехалі ад маміных піражкоў. На вячэру выдалі чай, хлеб, а масла ўсім не хапіла. Вось і пайшлі «паломнікі» ў буфет. Адсюль парада: бярыце болей грошай — і ваш рацыён не будзе залежаць ад процьмы сюрпрызаў.

* * *

Некаторыя рэзервісты прыехалі п'яныя ў дым і спалі на сваіх клунках.

**Аўторак, дзень 2-і.**

Сёння дзяжурым па кубрыку (частка казармы, якую займае наш узвод). Прыходзіцца чакаць, пакуль астатнія калегі памыюць падлогу, бо не хапае шчотак. Праз некалькі дзён Юры Е. набыў шчотку для нашага ўзвода. Мы яе нават падпісалі. Такі вось падарунак застанецца войску.

* * *

Лекцыя па нацыянальнай бяспецы. Патэнцыйных праціўнікаў у нас няма, але вучэнні называюцца «Захад-2009», а ў пераліку вытворцаў атрутных рэчываў фігуруюць адны дзяржавы НАТА. Мабыць, каб у падкорцы салдатаў засела, што Захад — вораг.

Заходзіць маёр М-ка і асыпае прысутных адборнымі мацюкамі. Няўжо ён і дома так лаецца? Потым пачуў ад старaслужачых, што жонка ад яго ўцякла. М-ка — тыповы прадстаўнік большасці мужчынскага насельніцтва мястэчка Z. Адзіная ўцеха для іх — жлукціць гарэлку.

Вінаватая ў гэтым не сістэма, не яна псуе чалавечае ў чалавеку. Справа ў нас саміх. Нездарма ж чалавеку даецца толькі адзін шанец — нарадзіцца. А ўсё астатняе — справа яго волі, выпадку ці прыхамаці лёсу.

**Серада, дзень 3-і.**

Заняткі. Да абеду заставалася гадзіна, і, каб «забіць» час, узвод рушыць на палігон. Толькі прыходзім, як адразу вяртаемся назад. Па абедзе паўтараем тактычны манеўр. Толькі для прыліку яшчэ паслухалі лекцыю, змест якой ужо немагчыма ўспомніць. Дзякуй за ўвагу!

**Чацвер, дзень 4-ы.**

Недарэчнасць нашага раскладу: цягам аднаго дня тройчы надараецца фізо, а потым некалькі дзён адсутнічае нават размінка. Або цэлы дзень нудныя лекцыі ці бясконцыя шпацыры на палігон.

* * *

Афіцэры-правяраючыя пытаюцца: "Як вас кормяць?» Яны і самі добра ўсё ведаюць, а пытаюцца для прыліку.

* * *

У першыя дні ў мяне і Юрыя з Пастаў скралі сланцы. Звярнуліся да падпалкоўніка і пачулі: «Гэта прынцып казармы. Забярыце ў іншых. Толькі пазбягайце канфліктаў». Вяртаемся з начных заняткаў і...ужо вешалак для бушлатаў таксама паменела.

**Субота, дзень 6-ы.**

Я і Юры з Паставаў купілі праз «пасярэдніка» скрадзеныя сланцы. Раблю гэта першы і апошні раз. Пачак цыгарэт — невялікая плата, але, набываючы крадзенае, міжволі ставіш справу на паток.

**Нядзеля, дзень 7-ы.**

Першы выходны на гэтых зборах. У сталоўцы вяду размову з філолагам Сяргеем. Падыходзіць нейкі сяржант: «Як прыемна, што ёсць яшчэ хлопцы, якія гавораць па-беларуску!»

* * *

Вечарам казарма глядзіць кіно. Выбіраючы паміж «Канікуламі строгага рэжыму» і «Лабірынтам фаўна», салдаты аддалі перавагу першаму. Другі фільм пасля прагляду першых кадраў адкінулі, пракаментаваўшы: «Нейкая хрэнь!»

**Аўторак, дзень 9-ы.**

Казарма нагадвае маленькую зону са сваімі суровымі законамі-паняццямі. На вяршыні іерархіі той, хто пры ўладзе і мацнейшы фізічна. Калі знікае якая-небудзь рэч, ніхто не піша рапарты. Прасцей забраць першае, што трапілася пад руку. Вось і знікаюць сланцы, анучы, зубная паста і шчоткі, лёзы для галення, адэкалоны і шампуні, белая тканіна, ніткі... Усё, што пакідаеш у тумбачцы, можа незваротна знікнуць.

* * *

Салдаты «трэцяга тэрміну» вар'яцеюць ад бяздзеяння і лішку тэстастэрону. Вось і муштруюць маладых, прымушаюць адціскацца і прысядаць. «Духі» жывуць у пастаянным страху і напружанні. З часоў Саюза «дзедаўшчына» памякчэла, стаўшы пераважна грашовай і адпрацовачнай. Дзядуху выкараніць хіба што прафесійнае войска, а ў напаўгалодным натоўпе ёй проста наканавана быць.

* * *

Вечарам цягнемся на палігон. Навокал у вокнах панэльных дамоў гарыць святло. І як жа шчыміць сэрца салдату, які бачыць цывільнае жыццё, такое блізкае і далёкае адначасова . Але ж мы служым на Радзіме, у Беларусі, а таму меней сопляў. Майму бацьку і яго аднагодкам-беларусам было куды цяжэй служыць у Арменіі і Туркменіі.

**Серада-пятніца, дні 11, 12,13.**

Ляжу ў медроце з тэмпературай 37,2. Настрой сапсаваны, бо кожны дзень хваробы для рэзервіста ў залік службы не ідзе. Усе дэмабілізуюцца, а я застануся на некалькі дзён.

У часці стан блізкі да пандэміі. Медрота, разлічаная на 30 пацыентаў, налічвае ўдвая больш. Палаты застаўленыя рыпучымі койкамі. Кубкаў і лыжак не хапае, хворыя ядуць па чарзе. І лекаў няма ніякіх...

**Аўторак, дзень 16-ы.**

У парк ідзем самастойна, бо маёр «рагамі ў зямлю». На зваротным шляху дружна пералазім праз паркан. Часць нібы прахадны двор. Учора школьнікі зрэзалі шлях ад школы да дому праз тэрыторыю часці, мінаючы наш узвод за адпрацоўкай стральбы лежачы. Абышлі нас і спакойна пералезлі праз паркан.

* * *

У праграме «Арсенал» быў рэпартаж пра суперпуперсучасную баявую машыну, нашпігаваную электронікай. Наш камандзір пасмейваецца: такая машына ў нашым войску ўсяго адна.

* * *

Войска вучыць цаніць простыя рэчы: душ, кубак зялёнай гарбаты, чытанне кнігі, вечаровы шпацыр... Цаніце кожную вольную хвіліну, радуйцеся кожнаму світанку.

**Чацвер, дзень 18-ы.**

У нас медыум. У парку маёр прапанаваў узводу на выбар: або выкапаць сапёркамі акоп-схоў на 20 чалавек і потым закапаць, або адшараваць тэхніку ў гаражах.

**Пятніца, дзень 19-ы.**

Афіцэры з парку штодня сядзяць у вагончыку, паляць грубку, гуляюць у карты і павольна выпіваюць. Здавалася б, бясклапотнае існаванне. Не зусім. Наракаюць на малы заробак, начальства, цешчу-скнару, жонку-змяю. Адзін 20 хвілін балалакаў з майго тэлефона і нават не падзякаваў. Такіх афіцэраў салдаты мянуюць «шакаламі».

**Субота, дзень 20-ы.**

Вечарам адзін паддаты «шакал» палез шнарыць па нашых тумбачках у пошуках «парушэнняў статута». Цікава, ці адпавядае яго п'яная фізіяномія патрабаванням статута?

**Аўторак, дзень 23-і.**

«Гэты хлопчык-тэрміновік толькі ў войску пабачыў сапраўднае жыццё!» — кажа прапар. Мы, натуральна, спрачаемся. Прыніжэнні, здзекі, мацюкі, цынізм і нівеляванне асобы, штовечар прагляд «Псіхапанарамы»... Нездарма ж тэрміновыя напіваюцца і ўцякаюць дадому. Іх вяртаюць, па магчымасці не афішуючы здарэнне.

**Субота, дзень 27-ы.**

У абед нанёс войску шкоду — разбіў талерку ў сталоўцы. Дзяжурны прапаршчык строга спытаў, ці вялікі ў мяне заробак. Потым спытаў прозвішча, узвод і прозвішча камандзіра.

**Нядзеля, дзень 28-ы.**

Вылазяць статкавыя рысы ў паводзінах. Хутчэй урваць, быць першым. У сталоўцы ўжо не шыхтуемся, а становімся без чаргі.

**Панядзелак, дзень 29-ы.**

Лю-дзі-і-і! Ча-ла-ве-кі-і-і! Усміхайцеся. Гэта раздражняе. Выпраменьвайце пазітыў, усім і ўсяму на злосць. Не будзьце паня-во-ле-ны-я!

**Пятніца, дзень 33-і.**

Сёння ў парк прыехаў камбрыг і добра такі ўсіх нацягнуў. У гаражах цячэ дах, машыны ржавеюць. Камбрыг загадвае выцерці ўсе машыны насуха і прамазаць салярай. На разумную галаву варта было б адрамантаваць дах ...

Такое войска Беларусі не патрэбна!

**Субота, дзень 34-ы.**

Ноччу ў мяне знік пас.

Раніцай лейтэнант К-та злавіў Андрэя Л. за шараваннем ботаў у казарме, пашыхтаваў нас і пачаў капаць на глузды. Маўляў, можна аформіць гэта як пашкоджанне маёмасці (падлогі), адаслаць ліст на месца працы або ўвогуле перавесці на тэрміновую службу.

* * *

З салдацкага заробку прапаршчык Шв-ч забраў на добраахвотных пачатках дзве тысячы. Маўляў, ён за свае крэўныя зрабіў рамонт у прыбіральні. Колькі разоў мы сюды прыязджаем, столькі разоў прапар і робіць рамонт.

...Саслужбоўцы пайшлі на дзембель у панядзелак, 14 снежня. Я і рэшта жаўнераў засталіся даслужваць свае дні, якія праляжалі ў лазарэце. Адсюль парада: не хварэйце.

У панядзелак палкоўнік вывеў на паказ будучага дзембеля ў незвычайнай форме. Гімнасцёрка а-ля кіцель гусара 1812 года з эпалетамі й бантамі. Рукавы па баках, як і нагавіцы, з лампасамі белага колеру. Безгустоўшчына. Палкоўнік па-бацькоўску прысароміў салдата, але ж, па вялікім рахунку, яго справа, як паказацца ў такой форме на людзях.

На наступны дзень прыехала маладое папаўненне. Нібы зацкаваныя звяркі. Афіцэры равуць, падганяюць іх, і сяржанты не даюць прадыхнуць. Мой зямляк, сяржант тэрміновай службы К-скі, з непрыхаваным задавальненнем кажа: «Вось лягу ў ніжнім ярусе і буду ноччу пальцам тыцкаць у матрас, каб «дух» не заснуў». Навошта? «А мне па духані таксама нялёгка было». No comment.

* * *

У апошнюю ноч не спіцца.

Няма суму, злосці, расчаравання.

Прыходзіць разуменне: тут, у войску, я пазнаёміўся з новымі людзьмі, атрымаў незабыўныя ўражанні, карысны досвед, з іншага боку паглядзеў на свет.

З гэтым і пайду далей.

Так. Тут я пражыў маленькае жыццё і не шкадую ні аб чым!







21 верасня ў Маскве каля 30 тысяч чалавек выйшла на Марш міру. Галоўны лозунг — «Пуцін, рукі прэч ад Украіны».







«Не — вайне між народамі, так — вайне між класамі» — такі транспарант неслі анархісты.




Кпіна з «Крым наш».




Маршы міру прайшлі таксама ў Пецярбургу ды іншых гарадах Расіі. Такая налепка запрашала на марш у Сыктыўкары (Комі). На ёй выкарыстаныя сцягі ўкраінскіх і расійскіх нацыяналістаў.




Афішка маскоўскага маршу.




Варыяцыя на тэму «Перш чым збіраць зямлі, варта засеяць тыя, якія ўжо ёсць».



## Анекдоты і жарты

* * *

Я бегла за вамі тры дні, каб сказаць вам, як вы мне абыякавыя.

* * *

«Шаноўная рэдакцыя! Вялікі дзякуй вам за рэцэпт цудоўнай салаты з авакада і крэветкамі. Праўда, авакада ў нас не прадаюцца, таму мы іх замянілі варанай бульбай. Што тычыцца крэветак, то яны дарагаватыя. Таму мы іх замянілі салам. Аднак вельмі смачная салата атрымалася!»

* * *

Самая эфектыўная сістэма ў Зімбабвэ. Яны ўкладваюць у ахову здароўя па адным баксе на чалавека, а жывуць цэлых сорак гадоў.

* * *

Галоўнае дасягненне інтэрнэту — пісьменнікаў стала больш, чым чытачоў.

* * *

Ніяк не ўдаецца патраціць грошы з розумам: то розуму не хапае, то грошай.

* * *

— Як ідуць твае пошукі працы?
— Складана. Паўсюль патрабуюць цэлых восем гадзін быць цвярозым.

* * *

Для кагосьці — проста пасведчанне кіроўцы, а для інспектара ДАІ — хлебная картачка.

## «НН» сто гадоў з вамі

21 верасня Гасудар Імператар меў волю прыехаць к дзействуючай арміі.

Сягоння, 25 верасня, Гасудар Імператар найміласцівей навясціў Вільню.

**«НН». №38. 1914**

Вінцук Вячорка: Я асабіста абышоў каля сямісот кватэраў. Сумарна дэмакратычныя сілы дайшлі бадай што да мільёнаў. Гэта было надзвычай важна — упершыню за доўгія гады прадэманстраваць людзям увасобленую альтэрнатыву існай уладзе. Альтэрнатыву, якая сама да іх прыходзіць, адказвае на балючыя пытанні, прапануе пазітыўнае выйсце. Уся тая твань, што зліваецца з экранаў тэлевізараў, паміма волі ініцыятараў палярызуе грамадства й рэльефна высвечвае яго свабодалюбівую большыню. Цяпер не 2001 год.

**«НН». №35. 2004**

**Увага! Наступны нумар тыднёвіка «Наша Ніва» выйдзе 8 кастрычніка.**


# Наша Ніва

незалежная газета

заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991

галоўныя рэдактары «Нашай Нівы»:
З.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914),
Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч,
У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

сакратарка рэдакцыі — Таццяна Кур'ян
шэф-рэдактар — Андрэй Дынько
намеснікі галоўнага рэдактара — Ягор Марціновіч, Зміцер Панкавец
галоўны рэдактар — Андрэй Генадзевіч Скурко
заснавальнік — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»
выдавец — Прыватнае прадпрыемства «Суродзічы»

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Мінск, а/с 537
Tel/fax: (017) 284-73-29, 8-029-613-32-32,
8-029-707-73-29.
E-mail: nn@nn.by
On-line: www.nn.by

**Падпісны індэкс:**
індывідуальны — **63125**
для прадпрыемстваў — **631252**


© НАША НІВА. Спасылка на «Нашу Ніву» абавязковая.
8 палос фарматам А2, 4 друк. арк. Друкарня Рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку». ЛП №02330/106 ад 30.04.2004. Пр. Незалежнасці, 79, 220013, Мінск. Рэдакцыя не нясе адказнасці за змест рэкламных абвестак. Пасведчанне аб рэгістрацыі перыядычнага выдання №248 ад 22 чэрвеня 2009 г., выдадзенае Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Юрыдычны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а. Р/р 3012206280014 у МГД ААТ «Белінвестбанк», Мінск, код 764.

Наклад 7100. Газета выдаецца 48 разоў на год.
Нумар падпісаны ў друк 16.30 23.09.2014.
Замова №3708.
Рэдакцыйны адрас:220030 г.Мінск, вул.Энгельса, 34а.
Цана дамоўная.

ISSN 1819-1614

9 771819 161008 14036

М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12